ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА
19 СНЕЖНЯ 2003 г. № 51-52/4236-4237

## АНОНС!

Набліжаецца 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Установа «Літаратура і Мастацтва» праводзіць агульнанацыянальную акцыю па стварэнні кнігі «Наша Перамога». Запрашаем усіх, хто зацікаўлены, да супрацоўніцтва.



*"Бачанае... Чутае... Перажытае..." — "ЛіМ"-Апытанне.*

4



# З Новым годам, з Калядамі!

Святочнай свечкі
дрогкае святло
Зноў асвятляе
нам шляхі-сцяжыны
І тое, што ў нас ёсць,
што будзе, што было
Пад небам вечным
нашае Айчыны.

# ПРАВА НА ТВОРЧАЕ ЖЫЦЦЁ

Заканчваецца, падыходзіць да свайго лагічнага фінішу і бягучы, 2003 год. У кожнага, вядома, ён склаўся пасвойму: у адных — лепш, у іншых — не зусім. Але што паробіш — жыццё нельга ўвагнаць у пракрустава ложа. Яно часам падносіць усім нам нечаканыя сюрпрызы, якія асобнымі людзьмі, ды і цэлымі катэгорыямі грамадзян не планаваліся і нават не ўяўляліся. У гэтым, хутчэй за ўсё, і заключаецца прыцягальнасць нашай агульнай існасці...

Разам з каляндарным годам для творчых асоб настае час падвесці рахункі асабістых дасягненняў і набыткаў, убачыць свае пралікі і упушчэнні. Здаецца, усё ідзе як і заўсёды. Некаторыя могуць парадавацца выхадам новых кніг, свежымі публікацыямі ў часопісах і газетах, а той-сёй паскардзіцца на няўдзячнасць лёсу. Як у народзе гавораць: гледзячы каму якая карта выпала. Адным словам, гэта дыялектыка жыцця...

З такой нагоды хочацца паразважаць і пра дзейнасць Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва", якой, дарэчы, зусім нядаўна пайшоў другі год. Тэрмін, зразумела, невялікі, але за гэты час зроблена ўжо многае.

Нялёгкім і пакутлівым было станаўленне установы. Шмат хто — не толькі з творчай інтэлігенцыі, але і сярод звычайных людзей (чытачоў перыёдыкі) — выказваўся "за" і "супраць" стварэння новай арганізацыі пад неафіцыйнай ды гучнай назвай "холдынг". На той час хіба што лянівы не чытаў на старонках рэспубліканскага друку рознамасцітыя артыкулы наконт аб'яднання літаратурных выданняў пад адной шыльдай. І вось з той пары мінула, адышло ў гісторыю каля двух дзесяткаў месяцаў. Аціхлі, паспакайнелі тыя, хто быў "за", і тыя, хто выказваўся "супраць".

Дык што ж мы маем на сённяшні дзень?

У нялёгкай эканамічнай сітуацыі выданні РВУ выжылі дзякуючы фінансавай падтрымцы дзяржавы! Рэгулярна выходзяць часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Всемирная литература", штотыднёвік "ЛіМ", (праўда, незразумелая пакуль сітуацыя з часопісам "Крыніца"). Пакрысе набіраюцца тыражы. А гэта значыць, што ў пісьменніцкай арганізацыі ёсць магчымасць даносіць сваё паэтычнае, празаічнае, публіцыстычнае слова да шырокай грамадскасці краіны, бо ўсе мы маем права на творчае жыццё.

Працягваюцца традыцыі нашых вялікіх папярэднікаў, прыўносіцца ў літаратурны працэс шмат свежага маладымі пакаленнямі, папаўняюцца пісьменніцкія шэрагі новымі творцамі. Усё гэта гаворыць за тое, што пісьменнік не выкінуты з агульнага творчага працэсу. На сцэнах тэатраў адбываюцца прэм'еры спектакляў па творах беларускіх драматургаў, выходзяць кнігі (хоць не так часта, як таго нам хацелася б). Жыццё працягваецца. Здаецца, што міне яшчэ крышку часу і знікнуць, згладзяцца дробязныя непаразуменні сярод нашых творцаў. Бо літаратура, як неаднаразова я адзначаў, — жывы арганізм, а ўсё істотнае, жыццесцвярджальнае павінна і будзе жыць. І ў гэтым, я ўпэўнены, у першую чаргу зацікаўлена дзяржава.

Таму, у Новы, 2004 год, дарагія сябры, пойдзем разам, радуючы не толькі сябе, але і чытача сваімі творчымі дасягненнямі і набыткамі, памнажаючы гонар Беларусі.

**Анатоль КАЗЛОЎ**

Паважаныя падпісчыкі і чытачы! Наступны нумар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выйдзе 9 студзеня 2004 года. Са святамі Вас і да сустрэчы ў новым годзе!

***16 снежня Рэспубліка Казахстан адзначыла свой дванаццаты Дзень Незалежнасці. Напярэдадні свята наш карэспандэнт сустрэўся з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Рэспубліцы Беларусь Газізам АЛДАМЖАРАВЫМ.***

# ЗАЦІКАЎЛЕНЫ Ў СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

***— Газіз Камашавіч, чым адметны быў сёлетні год для Казахстана?***

— Для краіны, асабліва ў сацыяльна-эканамічным развіцці, год быў паспяховым. Захаваліся высокія тэмпы эканамічнага росту, паказчык айчыннай вытворчасці павялічыўся ў сярэднім на 11 працэнтаў, развіваюцца сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі і праграма імпартзамяшчэння.

Увогуле ж, за гады незалежнасці, устойліва замацавалася нацыянальная валюта — тэнге, устаноўлены канкрэтныя тэрміны ўступлення краіны ў сусветнае гандлёвае таварыства.

Апрача таго, у Казахстане ўведзена прыватная ўласнасць на зямлю, прынята спецыяльная праграма па адраджэнні вёскі.

Словам, ліберальная эканоміка з развітай рынкавай інфраструктурай функцыяніруе дзеля дабрабыту народа і краіны ў цэлым.

***— А якога напрамку трымаўся знешні вектар палітыкі?***

— У знешняй палітыцы наша краіна прытрымліваецца шматвектарнасці. Як добры гаспадар яна ў першую чаргу ладзіць з краінамі-суседкамі, сябруе з былымі рэспублікамі Савецкага Саюза, у прыватнасці, з Беларуссю, самыя цёплыя і даверлівыя адносіны, наладжвае дзелавыя стасункі з краінамі далёкага замежжа.

Казахстан неаднаразова вылучаў шэраг ініцыятыў, якія былі накіраваны на ўмацаванне міра і стабільнасці ў гарачых рэгіёнах, аднабакова адказаўся ад ядзернай зброі і далучыўся да Дагавора аб поўнай забароне ядзерных іспытаў, вырашыў закрыць ядзерны палігон у Сяміпалацінску.

Наша рэспубліка ініцыявала саміт "Аб мерах даверу ў Азіі", які прыняў дэкларацыю аб ліквідацыі тэрарызму і садзейнічанні дыялогу паміж цывілізацыямі.

***— Газіз Камашавіч, а якіх прыярытэтаў прытрымліваецца кіраўніцтва краіны ва ўнутранай палітыцы?***

— Самых, што ні ёсць, чалавечых. Асноўныя з іх — здароўе, адукацыя, паляпшэнне ўмоў і ўзроўню жыцця казахаў.

Напрыклад, што тычыцца праграмы здаровага сэнсу жыцця. У нас працуюць спартыўна-аздараўленчыя комплексы, іпадромы, тэнісныя корты, некалькі палёў для гульні ў гольф. Шырока разгорнута будаўніцтва іншых спартыўных збудаванняў.

У апошні час сярод казахаў вельмі папулярным стаў аздараўленчы метад Парфірыя Іванова, дарэчы, актыўнай прыхільніцай якога з'яўляецца *першая ледзі Казахстана Сара Назарбаева*.

Набірае моц і адукацыя. Больш за 26 працэнтаў грамадзян маюць вышэйшую і незакончаную вышэйшую адукацыю, прыкладна 40 працэнтаў — сярэдняе і няпоўнае-сярэдняе.

Зараз у Казахстане фарміруецца нацыянальная мадэль адукацыі: праведзена рэформа вышэйшых навучальных устаноў, адбываецца пераход *сярэдніх адукацыйных школ*, якія амаль што ўсе камп'ютэрызаваны, на адзінаццацігадовы тэрмін навучання.

Завяршылася ў нас і пенсійная рэформа. Яе сутнасць зводзіцца да персаналізацыі пенсійных укладанняў грамадзян у сістэму накапляльных фондаў. Сёння яны складаюць каля паўтара мільярда долараў. Безумоўна, яны выконваюць яшчэ і функцыю магутных нацыянальных інвестыцый.

***— Газіз Камашавіч, скажыце, калі ласка, а як удаецца шматканфесійнай краіне, з больш чым пятнаццаццю мільёнамі чалавек, жыць у ладзе, без канфліктаў на рэлігійнай і нацыянальнай глебе.***

— Каб не прагаварыцца, — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол лёгка пастукаў костачкамі пальцаў аб стол, — сапраўды, верапаразуменне ў рэспубліцы трымаецца за кошт шматлікіх фактараў, але ж мне здаецца, што асноўны з іх, *гэта палітыка дзяржавы ў гэтай сферы.*

Дарэчы, гэта пацвердзілі і лідэры традыцыйных рэлігій з усяго свету, якія збіраліся ў Астане на сваім першым з'ездзе.

***— 2000 год для Казахстана стаў годам падтрымкі культуры. Што гэта за акцыя?***

— Гэта была не акцыя, а імпульс дзяржаўнай праграмы па адраджэнні традыцый, культуры, пісьменства народа, гэта зварот да гістарычнага вопыту сваіх продкаў. Кіраўніцтва краіны звяртала ўвагу людзей, на грамадскую свядомасць, на вартае выхаванне нашчадкаў.



У спадчыну казахаў уваходзіць больш за 25 тысяч помнікаў гісторыі архітэктуры, археалогіі (вядомы маўзалей Хаджы Ахмеда Ясаві, Кургальджынскі заказнік), звыш 100 дзяржаўных музеяў захоўваюць каля двух мільёнаў культурных каштоўнасцей. У 3066 бібліятэках існуе 66840000 тамоў кніг, рэдкія рукапісаў і выданняў. Усё гэта акуратна выкарыстоўваецца і беражліва захоўваецца дзеля будучага.

***— Газіз Камашавіч, на вашым рабочым стале ляжыць кніга. Што вы чытаеце ў вольны час?***

— Чытаю шмат, а вось перавагу аддаю філасофіі і паэзіі. У маёй бібліятэчцы творы Мухтара Шахамава, Ульяса Есенберліна, Кадырaлі Мурзаліева, з беларускіх пісьменнікаў — Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Святланы Алексіевіч.

***— Дзякуй за інтэрв'ю і яшчэ раз са святам вас.***

— І вам, дзякуй.

**Інтэрв'ю правёў**
**Віктар ПАТАПЕНКА**

# УСІХ ПАЯДНАЛА МУЗЫКА

Гэта быў не пленум і не з'езд. Сабраліся разам кампазітары і музыказнаўцы, каб забыцца пра агульныя праблемы і ўзаемныя прэтэнзіі, гаварыць мала і выключна пра станоўчае, абменьвацца кампліментамі, прымаць віншаванні, а калі ўспамінаць старое – дык толькі добрым словам. Такую бесканфліктнасць, ніяк не ўласцівую асяроддзю творчаму, абумовіла святочная нагода: Беларускі саюз кампазітараў адзначаў сваё 70-годдзе.




"Веліч мастацтва мацней за ўсё выяўляецца ў музыцы", – спасылкай на выслоўе Ё.Гётэ, вялікага і велічнага прадстаўніка мастацкага пісьменства, распачаўся даклад І.Лучанка, дарэчы, нязменнага старшыні саюза на працягу ўжо 23-х гадоў. Прапанаваўшы пагаварыць пра тое, што ўдалося захаваць у творчым жыцці кампазітарскай суполкі ў нялёгкі цяперашні час, ён, як асноўную каштоўнасць, вылучыў традыцыі. Традыцыі, закладзеныя прафесіяналамі айчыннага музычнага мастацтва: Р.Шырмам, Г.Цітовічам, А.Багатыровым, М.Аладавым, Я.Цікоцкім... У агляде творчасці спадкаемцаў гэтых традыцый спалучылася нямала розных жанраў, а яшчэ больш — кампазітарскіх імёнаў: Л.Абеліёвіч, Я.Глебаў, Д.Смольскі, А.Мдзівані, С.Картэс, Г.Гарэлава, А.Сонін, В.Кузняцоў, С.Бельцюкоў, А.Залётнеў, Я.Паплаўскі, А.Літвіноўскі, А.Бандарэнка, В.Карэтнікаў, М.Марозава, А.Рашчынскі ды інш. (Не адзін дзесятак кампазітараў і музыказнаўцаў былі названы І.Лучанком).

Свята Беларускага саюза кампазітараў, свята нацыянальнай прафесійнай музычнай творчасці паяднала ў той вечар герояў урачыстасці ды іх гасцей, многія з якіх непасрэдна ўдзельнічалі ў юбілейнай цырымоніі. Памочнік Прэзідэнта РБ М.Шаўцоў зачытаў прывітанне кіраўніка дзяржавы, дзе, прынамсі, гаварылася пра прызнанне музыкі айчынных кампазітараў ва ўсім свеце. Міністр культуры Л.Гуляка назваў юбілей саюза святам усёй беларускай інтэлігенцыі, бо "да музыкі маюць дачыненне ўсе".

Між іншым, на юбілейнай вечарыне яшчэ раз пацвердзілася цесная сувязь дзвюх муз – музычнай творчасці ды літаратуры. Саюз кампазітараў быў створаны ў 1933 годзе... як аддзяленне Саюза беларускіх савецкіх пісьменнікаў. І толькі з часам набыў статус самастойнай суполкі. Ужо нават гэтым фактам пацвярджаецца крэўная і духоўная еднасць літаратуры ды музыкі, што яшчэ раз падкрэсліў у сваім віншавальным слове старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў А.Пашкевіч і падараваў юбілярам "Анталогію беларускай паэзіі XX стагоддзя" – крыніцу і стымул натхнення.

Нямала дарункаў і цёплых слоў прынялі кампазітары і музыказнаўцы ад прадстаўнікоў іншых творчых саюзаў, мастацкіх калектываў, навучальных устаноў і ўстаноў культуры, ад калег з Расіі, Украіны. Юбілярам таксама ўручаліся Нагрудныя знакі ды Ганаровыя граматы Міністэрства культуры Беларусі, самыя розныя ўзнагароды іншых органаў кіраўніцтва культуры.

Завяршылася свята канцэртам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам А.Анісімава. У праграме былі толькі тры (але якія!) творы: прэм'ера Канцэрта для сімфанічнага аркестра Г.Гарэлавай, Адзінаццатая сімфонія Д.Смольскага і сюіта з балета Я.Глебава "Ціль Уленшпігель".

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

***НА ЗДЫМКУ: выступае народны артыст СССР Ігар ЛУЧАНОК.***

*Фота К.ДРОБАВА*

**У рамках мерапрыемстваў, прысвечаных святкаванню 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у Цэнтральным доме Афіцэраў Узброеных сіл урачыста адкрылася першая выстава работ студыі ваенных мастакоў "Памяць".**



У экспазіцыі прадстаўлены работы народных мастакоў Віктара Грамыкі, Георгія Паплаўскага, Леаніда Шчамялёва, заслужаных дзеячаў мастацтва Леаніда Дударэнкі, Мікалая Апіока, Уладзіміра Уродніча, Міхаіла Басальгі, у якіх раскрыты лепшыя ўчынкі салдата і камандзіра, партызана і падпольшчыка, іх гераізм і адважнасць у барацьбе з ворагам.

# СТАРТАВАЛА «ПАМЯЦЬ»



Як адзначыў міністр абароны Рэспублікі Беларусь Леанід Мальцаў, ініцыятар стварэння студыі, патрыятычная тэма работ мастакоў павінна пашырыцца, каб глядач бачыў воіна, абаронцу Бацькаўшчыны не толькі ў ваенна-гістарычных эпізодах, але і ў сюжэтах, прасякнутых яго любоўю да сваёй Радзімы, да свайго народа.

Новая выстава, якая адкрыецца ў дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, будзе прадстаўлена новымі палотнамі мастакоў-прафесіяналаў і маладых талентаў.

**Алесь ПАТАПЕНКА,**
**вучань гімназіі № 2 г. Мінска**

НА ЗДЫМКАХ: старшыня Беларускага саюза мастакоў У. БАСАЛЫГА і міністр абароны Рэспублікі Беларусь Л.МАЛЬЦАЎ; удзельнікі адкрыцця выставы "Памяць".

***Фота Г. СЯМЁНАВА***

# 25000-ы НУМАР

Адным са старэйшых і аўтарытэтнейшых з выданняў нашай краіны на сённяшні дзень з'яўляецца газета "Звязда". Яе першы нумар выйшаў 9 жніўня 1917 года. Як і гісторыя Беларусі, гісторыя выдання вельмі багатая. Ды і самі старонкі газеты — гэта летапіс нашага жыцця...

17 снежня выйшаў у свет 25000-ы нумар газеты "Звязда". Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва", рэдакцыя штотыднёвіка "ЛіМ" шчыра віншуюць супрацоўнікаў і чытачоў "Звязды" з важнай падзеяй. Жадаем і надалей калегам-журналістам важкага плёну на ніве беларушчыны, дзеля агульнай карысці нашай краіны.

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬШЧЫНА

## СТВАРАЮЦЬ НАСТРОЙ

Зусім нядаўна пабачыў свет зборнік вершаў медыцынскіх работнікаў Гомельшчыны "Сиреневая свежесть". Людзі ў белых халатах стаяць на варце здароўя пацыентаў не толькі са скальпелем і танометрам, але лечаць іх, несумненна ж, і паэтычным радком.

Ствараюць добры настрой і работнікі культуры вобласці на клубнай сцэне, на старонках газет, на радыё і тэлебачанні. Таму і літаратурна-мастацкі зборнік, які ўжо здадзены ў друкарню, назвалі яны надзвычай дакладна: "Настрой". Аўтарамі яго з'яўляюцца журналісты Тамара Кручэнка, Мікола Дзегцяроў, Ігар Журбін, Марыя Зубель, культработнікі Сяргей Філіпчанка, Раіса Савіч, Галіна Анісковец, Андрэй Паўлухін — усяго сорак чалавек.

Трэба заўважыць, што сродкі на выданне зборнікаў выдаткаваны галіновымі абкамамі прафсаюзаў медыкаў і культработнікаў, а дапамогу ў падрыхтоўцы твораў да друку аказала абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў.

## ЮБІЛЕЙ ЦЮТЧАВА

У гомельскай Славянскай бібліятэцы прайшла літаратурная вечарына, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння вядомага рускага паэта Фёдара Цютчава. Пра значэнне яго творчасці ў жыцці нашых сучаснікаў гаварылі старшыня абласного Савета дэпутатаў Валеры Сяліцкі, загадчыка кафедры рускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны Людміла Ермакова, бранская паэтэса Валянціна Крысанава, пісьменнікі Васіль Ткачоў, Юрый Фатнеў і іншыя.

Студэнты-філолагі ГДУ імя Ф. Скарыны падрыхтавалі літаратурна-мастацкую кампазіцыю, у якой прагучалі не толькі паэтычныя радкі Фёдара Цютчава, але значнае месца займала ягоная перапіска з каханымі жанчынамі.

**Ягор ЛЯСНЫ**

# ЗАКАНЧВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА І-ае ПАЎГОДДЗЕ 2004 ГОДА!

***Шаноўныя чытачы! Заканчваецца падпіска на першае паўгоддзе 2004 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.***



**«Літаратура і мастацтва»**

Індывідуальная (індэкс — 63856)
на 1 месяц — 2600 руб.
на 3 месяцы — 7800 руб.
на 6 месяцаў — 15600 руб.
Ведамасная (індэкс — 63857)
на 1 месяц — 4100 руб.
на 3 месяцы — 12300 руб.
на 6 месяцаў —24600 руб.
Льготная (індэкс — 63880)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**«Полымя»**

Індывідуальная (індэкс — 74985)
на 1 месяц — 2600 руб.
на 3 месяцы — 7800 руб.
на 6 месяцаў — 15600 руб.
Ведамасная (індэкс — 00141)
на 1 месяц — 3600 руб.
на 3 месяцы — 10800 руб.
на 6 месяцаў — 21600 руб.
Льготная (індэкс — 00727)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**«Маладосць»**

Індывідуальная (індэкс — 74957)
на 1 месяц — 2700 руб.
на 3 месяцы — 8100 руб.
на 6 месяцаў — 16200 руб.
Ведамасная (індэкс — 00137)
на 1 месяц — 3900 руб.
на 3 месяцы — 11700 руб.
на 6 месяцаў — 23400 руб.
Льготная (індэкс — 00731)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**«Нёман»**

Індывідуальная (індэкс — 74968)
на 1 месяц — 2600 руб.
на 3 месяцы — 7800 руб.
на 6 месяцаў — 15600 руб.
Ведамасная (індэкс — 00238)
на 1 месяц — 3600 руб.
на 3 месяцы — 10800 руб.
на 6 месяцаў — 21600 руб
Льготная (індэкс — 00728)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**«Всемирная литература»**

Індывідуальная (індэкс — 74863)
на 1 нумар — 2600 руб.
на 2 нумары — 5200 руб.
на 3 нумары — 7800 руб.
Ведамасная (індэкс — 00135)
на 1 нумар — 3600 руб.
на 2 нумары — 7200 руб.
на 3 нумары — 10800 руб.
Льготная (індэкс — 00729)
на 6 месяцаў — 8400 руб.

**УВАГА!** **Пачынаючы з Новага года будзе максімальна скарочана паступленне выданняў Рэдакцыйна-выдавецкай установы ("ЛіМ", "Маладосць", "Полымя", "Нёман", "Всемирная литература") у розніцу. Адзіная магчымасць застаецца нашымі чытачамі — ПАДПІСАЦЦА!**

ПЕРАМОЖЦЫ

## У МЕЖАХ МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ

**По выніках першага рэспубліканскага турыстычнага конкурсу "Пазнай Беларусь", які праводзіўся пад эгідай Міністэрства спорту і турызму, Дом-музей Адама Міцкевіча, што ў Навагрудку, прызнаны пераможцам у намінацыі "За захаванне гісторыі беларускай культуры" з уручэннем Дыплома лаўрэата і спецыяльна вырабленага памятнага прыза.**

**Усе матэрыялы намінантаў былі прадстаўлены ў выставачным цэнтры БЕЛЭКСПА (раней ВДНГ) у рамках Міжнароднага фестывалю "Турбаза Беларусі".**

**У конкурсе ўдзельнічалі звыш 60-ці розных арганізацый і ўстаноў з усёй Беларусі, якія звязаны са сферай турызму. Гэта — прадпрыемствы харчавання, турфірмы, гасцініцы, цэнтры турызму, краязнаўства, музеі, выканаўчыя камітэты.**

**Яўген ЛАПЦЕЎ**



***Ці ўсё, што акаляе пісьменніка, — матэрыял, з якога ён "будуе" творы?***

# БАЧАНАЕ... ЧУТАЕ... ПЕРАЖЫТАЕ...

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ, пісьменнік:**

— Відаць, што тут шмат залежыць ад асобы пісьменніка, ад яго натуры, мо нават ад яго асабістага жыцця — ад біяграфіі.

Ёсць пісьменнікі, якія пражылі недзе да гадоў пяцідзесяці; з іх лёсаў, з іх жыццяў можна пісаць паэмы, раманы, эпапеі. А ёсць такія, чыя біяграфія складаецца з дзесяці слоў: нарадзіўся, вучыўся, жаніўся, працаваў і г.д. Здаецца, нічога цікавага ў яго жыцці і няма. Але гэта не так: пад пяром таленавітага мастака з "нічога" можна зрабіць усё. У той час як багатая і цікавая біяграфія можа стаць шэраю і нецікаваю кніжкаю, калі да гэтага яшчэ дойдзе.

І усё ж пісьменніку лепш мець багатую на жыццёвыя падзеі біяграфію — тады ёсць ад чаго адштурхнуцца, ёсць за што "ўчапіцца" пры неабходнасці, ёсць што ўспомніць і даць гэта пры абмалёўцы нейкага персанажа — як штрых да яго характару, да біяграфіі і г.д.

Ветэраны вайны, напрыклад, не могуць забыць таго, што яны перажылі ў маладосці, яны пішуць пра вайну яшчэ і дагэтуль, хоць тая вайна была вунь як даўно. Пісалі і яшчэ часта пішуць пра вайну і дзеці — хто бачыў яе сваімі дзіцячымі вачыма — і шмат чаго перажыў за гады акупацыі і партызанскіх падзей.

Усё гэта і кладзецца ў аснову твора пра вайну, або ідзе нейкім эпізодам, малюнкам ва ўспамінах таго ці іншага героя твора. Карацей кажучы, усё тое, што пісьменнік перажыў сам ці яго блізкія, што ён бачыў, чуў, — усё гэта робіцца ў пераважнай большасці асновай твора кожнага пісьменніка.

Бачанае, чутае, перажытае — аснова, на якую кладзецца віток творчай фантазіі пісьменніка і тчэцца палатно твора — часам яркае, жывое, маляўнічае, часам шэрае, аднастайнае, якое потым будзе хіліць на сон чытача. Шмат такіх твораў — "другога гатунку" — выходзіла ў савецкай літаратуры, дзе галоўнай вартасцю лічылася тэма: пра сакратара абкама ці райкама, былога партызанскага камандзіра, а цяпер дырэктара вялікага завода. Калі пісьменнік у сваім творы не паказаў на першым плане камуніста, то яго ўжо будуць крытыкаваць, могуць нават вярнуць рукапіс на дапрацоўку. А дзе было ўзяць тых ідэальных камуністаў? Высмоктваць з пальца, выдумваць, фальшывіць. І хто мог добра крывіць душою, той хадзіў у "перадавіках вытворчасці", рос па службе, займаў адказныя пасады, вучыў іншых, як трэба пісаць метадам сацрэалізму, станавіўся лаўрэатам і г.д. Адным словам, служыў і заклікаў служыць усіх іншых...

Пісаць пра тое, што сам перажыў — лягчэй за ўсё, мо таму і выходзіць гэта цікавей, бо не трэба прыдумваць падзей, герояў, часам фальшывіць. Пісаць пра тое, што бачыў — таксама не надта цяжка, бо тут застаецца "прыдумаць" толькі псіхалогію ўчынкаў і паводзін герояў. Найцяжэй пісаць пра пачутае, расказанае. Тут ты ўжо застаешся сам-насам з матэрыялам, і як ты яго скарыстаеш, як укладзеш у яго душу, як усё гэта адгукнецца потым у сэрцы чытача — тут поўнасцю будзе твая заслуга: поспех або правал.

Успамінаю, з якім страхам я браўся пісаць аповесць "Між двух агнёў", сюжэт для якой мне даў тады яшчэ паэт Алег Лойка, які потым стаў і сам пісаць прозу. Усё ў гэтым сюжэце было мне незнаёма: вайна, партызанства, здрада, трагедыя. Шмат перапісваў, удакладняў, то пашыраў, то выкрэсліваў. Адчуваў, што бракуе псіхалагізму, пластыкі характараў, натуральнасці, ёсць плакатнасць. Галоўная мая слабасць была ў тым, што я не меў яшчэ багатага творчага вопыту.

А ўжо калі пісаў аповесць-хроніку "Порахам пахла зямля", было таксама страшнавата, але выручаў вопыт — не чужы, а свой уласны — набітыя сінякі і гузы, мазалі. Чалавек табе расказвае, ты слухаеш, занатоўваеш, потым, прагледзеўшы свае занатоўкі, бачыш, што там гола, там няма сувязі, там няма пераходу, там недакладнасць... Просіш расказаць яшчэ раз — а гэта робіцца не хутка, не адзін дзень і не тыдзень, а месяцы, і паволі чужы матэрыял робіцца як бы тваім, галоўны апавядальнік робіцца табе блізкі і зразумелы, ты ўжо яго бачыш у тым часе, у мінулым, ты ўжо ідзеш за ім і з ім, часам ужо можаш увайсці ў яго самога, "улезці" ў яго скуру.

Працэс гэты цяжкі і балючы, але ён патрэбны, інакш твора не будзе.

Так сталася са мною, але ў кожнага пісьменніка свая дарога, свой метад ці правілы, якімі ён карыстаецца і ідзе ў сваім развіцці далей і вышэй.

Ва ўсякім разе, біяграфічнасці ў творах любога нашага пісьменніка — вельмі і вельмі шмат. Возьмем Якуба Коласа, Івана Мележа, Янку Брыля, Івана Пташнікава, Івана Навуменку, Вячаслава Адамчыка і іншых. Мо з усіх празаікаў вылучаюцца Кузьма Чорны і Уладзімір Караткевіч, мо яшчэ Васіль Быкаў. У іх творах — раманах, аповесцях адчуваецца магутны сплаў перажытага, бачанага, чутага, вычытанага з гісторыі, што асабліва відаць на творчасці Караткевіча. Да іх набліжаюцца Генрых Далідовіч, Леанід Дайнека, Уладзімір Арлоў, Валянціна Коўтун, Вольга Іпатава і інш.



**Васіль ГОВАР, студэнт БДУ, чытач:**

— Думаю, гэта на самай справе так. Памятаеце: "Когда б вы знали, из какого сора..."? Аднак, ці то мы самі і тое, што вакол — надта шэрае, бескалёрнае, а толькі чытаць айчынных аўтараў з іх рэалістычным паказам жыцця не хачу.

Думаю, так робяць не толькі простыя чытачы, але і самі пісьменнікі. Бо яны праўдай-няпраўдай выходзяць на расійскія выдавецтвы з прапановай пісаць дэтэктывы, любоўныя ці палітычныя раманы. Хоць абы-што пісаць, толькі не пра сваё шэрае жыццё. З будзённасці можна будаваць творы. Усе беларускія пісьменнікі так раней і рабілі. Таму яны не цікавыя майму пакаленню.

**Анатоль КІРВЕЛЬ, пісьменнік (Санкт-Пецярбург):**

— Безумоўна, усё, што акаляе пісьменніка — матэрыял, з якога ён "будуе" творы. І гэта аксіёма, што азначае — не падлягае сумненню. Але... колькі пісьменнікаў — гэтулькі і аксіём...

Памятаю, як здзіўляўся і як радаваўся, што мае героі — жывыя людзі — мае сябры, з якімі я магу сустрэцца ў любы час, пагутарыць з імі, пажартаваць, выпіць кавы і — што самае цікавае — нават магу прачытаць ім пра іх саміх... Дарэчы, што я і рабіў — яны прымусілі мяне, бо надта ж цікава было ім, як я іх бачу, — і — што яшчэ цікавей, прынамсі для мяне, як для аўтара, — пазнавалі сябе і перапынялі чытанне водгукамі: "А гэта ж я!" І ганарыліся, што яны такія, якімі сябе лічаць, і... раптоўна змаўкалі, калі я казаў тое, што яны хавалі ў сабе — ад сяброў і нават ад самix сябе... Але крыўды на мяне аніякай не мелі...

І калі твор быў закончаны (надрукаваны на машынцы і пераплецены ў быццам бы й кніжку — эра камп'ютэраў яшчэ чакала сваіх аўтараў і сваіх выдаўцоў), кожны з іх пакінуў у ёй свой аўтограф... І тая самаробная кніжка — самая дарагая для мяне, бо сябры — жывыя людзі і жывыя героі — злучылі ў адно мяне, сябе і само жыццё...

З гэтай кніжкі і пачалася, так бы мовіць, галерэя маіх герояў, якія прыходзілі да мяне з гушчыні жыцця: я іх не прыдумляў — яны самі напрасіліся ў твор — чымся неардынарным — у паводзінах, у знешнасці, у думках...

А пісьменніцкае вока — яно толькі прыкмячае іхнія адметнасці, адсейваючы ўсё выпадковае ці неістотнае, і рэальныя людзі рэальна ажываюць у творах.

Добра, калі гэта ўдаецца!

Але дзеля таго, каб яны ажылі, неабходна і другая кампанента — душа пісьменніка, без якой жывы чалавек, што крочыць побач, ніколі не зробіцца жывым героем, бо судакрананне — пісьменніка і героя будучага твора — безумоўна, таксама аксіёма.

**Ірына КІСЕЛЬ, пенсіянерка, чытач:**

— Беларускую літаратуру я люблю са школы. Я ж нарадзілася і расла ў вёсцы. А нашы пісьменнікі пісалі пра тое, што я бачыла і чула кожны дзень: пра Вялікую Айчынную вайну, пра станаўленне калгасаў і будаўніцтва сацыялізму. Гэта зараз і моладзь ні чуць, ні чытаць не хоча пра вялікі подзвіг свайго народа, пра пакуты, праз якія праходзіла маё пакаленне і ранейшыя. Я ж жыву тымі ідэаламі, якія спазнала ў дзяцінстве, у школе, у камсамоле. І ўсё яшчэ веру ў светлую будучыню. Тэлевізару не веру, амаль не гляджу. Кніжкі вось усё перачытваю, — а чым мне яшчэ займацца? Добра, што за ранейшым часам назбірала вялікую бібліятэку. У мяне ў асноўным нашы, беларускія аўтары. Таму што раней на рускія кніжкі быў дэфіцыт, на класіку ці то сусветную літаратуру. А з нашымі, — ніякіх праблем, хоць зборы твораў купляй. Вось і перачытваю... Хацелася б новыя кнігі купіць (я б і Быкава набыла, і Гілевіча, і Шамякіна), ды кніжкі надта дарагія сталі. Пенсіі на іх не хапае...

**Славаміра ДАЙНЕКА, мэнэджэр, чытач і аўтар-пачатковец:**

— Гэта праўда, усе пішуць пра тое, што іх акаляе. Я таксама так раблю. А інакш як стаць пісьменнікам? Хаця ёсць жа фантасты і тыя, хто піша фэнтэзі. І, можа быць, яны жывуць у сваім, казачным, свеце і бачаць усё так, як апісваюць...

Шкада, што беларускія пісьменнікі не пішуць фэнтэзі, можа тады б наша літаратура была больш вядомай у свеце. Ці мне не сустракаліся такія кніжкі на роднай мове? Кажу шчыра, як патрыётка: я люблю айчынную літаратуру. Таксама і за тое, што нашы пісьменнікі знаходзяць творчы матэрыял вакол сябе.

**Падрыхтавала Вольга КУРТАНІЧ**

*Трэнас крытыкаў (літаратурных, тэатральных, музычных і г.д.) па "прафесіі" сёння не сціхае, бадай... па інерцыі. Бо ў якой іншай культурнай прасторы, акрамя найноўшай, гэтак жа ўдала спалучыліся рознага кшталту фактары (пандэмічны характар "рэфлексійнай творчасці", буянне чуллівасці, імклівы наступ "пяскоў" інтэрпрэтацыі на бастыёны "аб'ектыўнай рэчаіснасці" і г.д.) для яе – прафесіі – росквіту?!*

*"Сумленнасць розуму, інтэлектуальны імпэт, шчырасць меркаванняў, – усе згаданыя якасці, напэўна, бачацца толькі на адлегласці", – з філасофскай разважлівасцю зазначае персанаж аднаго з раманаў англійскага пісьменніка Цібора Фішара (у вольны ад выкладання філасофіі час герой рабуе банкі).*

*Магчыма, дзеля таго, каб прасякнуцца слушнасцю заўвагі, самому мастаку варта перагледзець "каталог" тых "сярэднекультурных" стэрэатыпаў, якія звыкла атаясамліваюць крэда сучаснай крытыкі з "дактрынай" абломаўшчыны (уважаючы за карпаратыўны "сцяг" крытыкаў знакаміты халат). Давядзецца крыху напружыцца – але каму зараз лёгка?.. А ў мэтах стварэння спрыяльнага настрою для змагання са стэрэатыпамі прапануем вам своеасаблівы "кантрапункт" (тут: "спалучэнне некалькіх самастойных мелодый, галасоў, якія гучацьадначасова, у адно цэлае" (гл. "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы") – яго, у зручным духу эпохі, можна ўспрымаць і як апалогію крытыкі, і як ахвяраванне ёю.*

**І.Ш.**

Таццяна ДАСАЕВА

*Беларускі дзяржаўны універсітэт*

## АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ – КРЫТЫК (Спецыфіка пісьменніцкай крытыкі)

Служэнне ісціне – этычны і прафесійны закон крытыкі. У яе аснове ляжыць спалучэнне павагі, шчырасці, добразычлівасці, спагадлівасці, далікатнасці, тактоўнасці з прынцыповасцю ў адносінах крытыка да асобы аўтара і яго твораў. Паводле М. Гарэцкага, "дрэнна крытыка такая, што крытыкуе не творы, а аўтара". Эстэтычны густ, тонкае адчуванне мастацкай матэрыі, інтуіцыя, прагнастычнасць, апэратыўнасць, выразна акрэсленая грамадзянская пазіцыя, яркая творчая індывідуальнасць – адметныя якасці асобы крытыка.

Існуе прафесійная і пісьменніцкая крытыка. Апошняе азначэнне ў дачыненні да крытыкі ўжываецца ў тых выпадках, калі ў ролі крытыка выступае мастак слова. Паміж прафесійнай і пісьменніцкай крытыкай ёсць якасныя адрозненні. Выказванні пісьменіка-крытыка маюць ацэначны характар, яны не заўсёды падмацоўваюцца доказамі, у той час як у прафесійнай крытыцы доказнасць, аргументаванасць выказванняў абавязковыя. У пісьменніцкай крытыцы ў ацэнцы твора спалучаюцца аб'ектыўна-навуковы і суб'ектыўна-публіцыстычны падыходы. Прафесійная крытыка таксама не пазбаўленая суб'ектыўнасці, аднак прырода суб'ектыўнасці ў пісьменніцкай крытыцы іншая. Навуковыя спосабы аналізу тэксту ў прафесійнай крытыцы ў пэўнай ступені абмяжоўваюць, стрымліваюць праявы суб'ектыўнасці, менавіта таму пісьменніцкай крытыцы ўласцівы непасрэдны характар успрымання мастацкага твора. Адметныя рысы пісьменніцкай крытыкі – вобразнасць і эмацыянальнасць.

Дзякуючы пранікненню ў таямніцы творчасці аўтара, веданню правіл, якімі ён кіруецца, выкарыстанню асабістага мастацкага вопыту пісьменнік-крытык глыбінна спасцігае псіхалогію творчасці іншага пісьменніка.

Кожны творца марыць пра крытыка-сябра, крытыка-настаўніка. Такога крытыка часцей за ўсё можна знайсці ў асобе мастака-крытыка. Галоўны прынцып пісьменніцкай крытыкі – спыніць увагу на тых мясцінах твора, у якіх аўтар выявіў яркія грані свайго таленту, свежасць мастацкага светаўспрымання.

Спецыфічныя рысы пісьменніцкай крытыкі надзвычай яскрава выяўляюцца ў літаратурна-крытычных артыкулах Алены Васілевіч, якія найперш вызначаюцца добразычлівасцю. Сімвалічна ў гэтым сэнсе гучыць назва рэцэнзіі А. Васілевіч "Добрымі вачыма" на першую паэтычную кнігу Н. Мацяш. У адзначанай рэцэнзіі, а таксама ў артыкулах, дзе разглядаецца творчасць паэтаў Л. Галубовіча ("Таемнасць агню"), М. Стральцова, С. Басуматравай, С. Грахоўскага ("Жыве недзе паэт...") і іншых аўтараў, А. Васілевіч падкрэслівае, што яе артыкулы адрозніваюцца ад рэцэнзій, зробленых прафесійнымі крытыкамі або паэтамі, дзе звычайна гаворка пачынаецца з разгляду "паэтычных вартасцей і недахопаў" асобнага твора ці кнігі. "Мае ж думкі і пачуцці – празаіка аб паэзіі – выклікаsuccessfully радасцю сустрэчы з таленавітым паэтам, яго духоўным светам", – падкрэслівае А. Васілевіч. Яна не стамляецца выказваць сваю радасць і захапленне ("Якая радасць, што жывуць на зямлі Паэты..."). Вобразна-эмацыянальны стыль, настраёвасць літаратурна-крытычных артыкулаў А. Васілевіч набліжаюць іх да мастацкіх твораў.

Пра недахопы аналізуемых твораў А. Васілевіч згадвае звычайна ў канцы сваіх артыкулаў, іранізуючы пры гэтым над абавязковымі атрыбутамі прафесійнай крытыкі, калі пасля радкоў пра дадатныя бакі творчасці пісьменніка ідзе сакраментальнае "аднак".

Добразычлівае стаўленне А. Васілевіч да аўтараў, асабліва маладых (тут мы сустракаемся з крытыкам-настаўнікам, крытыкам-сябрам), не выключае яе прынцыповасці, патрабавальнасці ў адносінах да мастацкай творчасці ўвогуле. Асабліва выразна гэта выяўляецца ў артыкулах, прысвечаных аналізу прозы М. Клебановіча ("Тварыць словам"), Я. Сіпакова ("Разбурэнне словам. Суб'ектыўныя заўвагі чытача"), М. Воранава ("Таварышу па пяру") і інш. Тут А. Васілевіч па праве вопытнага празаіка, што выступае ў ролі крытыка, не робячы агаворак пра недастатковую кампетэнтнасць, як гэта было пры разглядзе паэзіі, дае карысныя парады "таварышам па пяру", робіць крытычны заўвагі. Яна ўздымае пытанні, звязаныя з культурай мовы, перасцерагае крытыкаў ад "неразборлівага густу і абсалютнай глухаты: эстэтычнай, эмацыянальнай і, калі хочаце, сацыяльнай таксама!" ("Разбурэнне словам").

Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

*Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва*

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА: ПРАБЛЕМА ФАРМІРАВАННЯ ЖАНРАВЫХ СТРАТЭГІЙ

Уласна сістэмная, паўнавартасная стратэгія, зразуметая як майстэрства планавання дзейнасці, заснаваная на "правільных і далёка разлічаных прагнозах", а таксама як мастацтва фарміравання грамадскай думкі, у сённяшняй беларускай літаратурнай крытыцы адсутнічае. Спробы "штучнага" стварэння ў айчынным літаратурным кантэксце апошняга дзесяцігоддзя палемічнай прасторы (згадаем артыкулы С. Дубаўца, Л. Галубовіча, А. Федарэнкі, кнігі Л. Сіньковай, М. Тычыны, П. Васючэнкі, Г.Кісліцынай, матэрыялы рубрык "Бліц-крытыка" і "За гарбатай у Шніпоў", падрыхтаваных Л. Рублеўскай для "ЛіМа", праекты В. Акудовіча і інш.) носяць спарадычны, "немэтанакіраваны" характар і вынікам звычайна маюць не працяглую дыскусію, але кароткачасовы ўсплёск цікавасці да той ці іншай праблемы.

З другога боку, беларускія крытыкі і літаратуразнаўцы відавочна заклапочаныя ўсё больш імклівым адчужэннем "масавага чытача" ад нацыянальнай літаратурнай традыцыі; апошнім часам актывізуецца "вытворчасць" праектаў, мадэляў, канцэпцый ды ідэй "уз'яднання" беларускай літаратуры з "шырокай чытацкай аўдыторыяй", дзеля чаго айчыннай мастацкай славеснасці прапануецца, напрыклад, энергічна асвойваць жанры "меладрамы", літаратурных "готыкі" і "фэнтэзі"...

За клопатам пра фарміраванне "стратэгіі развіцця" арыгінальнай беларускай літаратуры, крытыка, здаецца, не заўважае ўласнага "стратэгічнага банкруцтва": сёння яна выконвае ў адносінах да бягучага літаратурнага працэсу нават не столькі ацэначную, колькі канстататыўную, "назыўную" функцыю. Постмадэрная сітуацыя "эпістэмалагічнай няўпэўненасці", ускладненая эстэтычным рэлятывізмам як спараджэннем "зломнай" культурнай свядомасці, нібыта (!) нівелюе намаганні літаратурнай крытыкі "выпрацоўваць у чытачоў аб'ектыўныя погляды на літаратурныя з'явы, удасканальваць эстэтычны густ і эстэтычны ідэал" (В. Рагойша. "Слоўнік-мінімум па літаратуразнаўству").

Такім чынам, перад тэарэтыка-літаратурным пазнаннем і "практычным літаратуразнаўствам" востра паўстае праблема распрацоўкі такіх жанравых разнавіднасцей літаратурна-крытычнага тэксту, якія дазволілі б у адэкватных сучаснаму мастацкаму мысленню формах увасобіць прынцыпова важны ідэйна-эстэтычны змест, тыя назіранні за быццём літаратуры і даследаванні яе прыроды, вынікі якіх будуць валодаць адмысловай "сугестыўнасцю", што дазволіць рэальна паўплываць на чытацкія густы і меркаванні.

Намінальна ў тых айчынных перыядычных выданнях, дзе больш ці менш паслядоўна асвятляюцца праблемы жывога літаратурнага працэсу ("Arhe", "Дзеяслове", "Літаратуры і мастацтве", "Маладосці", "Нашай Ніве", "Нёмане", "Паміж", "Полымі", у меншай ступені – у "Zямлі N", "Культуры", "Скарынічы"), сёння прадстаўленыя самыя разнастайныя жанры крытыкі: агляднa-аналітычны артыкул, праблемны артыкул, літаратуразнаўчае эсэ, "літаратурны партрэт", рэцэнзія, літаратурна-крытычныя імпрэсіі ("суб'ектыўная крытыка"), "дзённікавая крытыка" і да т.п.; павольна, але незваротна на старонках асобных часопісаў з'яўляюцца агляды мастацкай літаратуры ў Сеціве ("інтэрнет-крытыка").

Аднак найбольш запатрабаванымі канкрэтнай літаратурнай сітуацыяй, на наш погляд, паўстаюць два жанры: агляднa-аналітычны артыкул ("вялікая эпічная форма" літаратурнай крытыкі) і ягоная разнавіднасць – агляднц артыкул у форме "бліц-крытыкі" (кароткія звесткі пра твор і ягоныя мастацка-эстэтычныя, стылёвыя асаблівасці, выкладзеныя з выразнай ацэначнасцю), а таксама кароткая рэцэнзія (сумяшчае ў сабе лаканічную заклікавасць рэкламнай анатацыі і парадаксальны змест максім-афарызмаў). Першы жанр, бадай, самы складаны; другі – ці не самы "няўдзячны"; гэтым, напэўна, і абумоўленая мінімальная іх прысутнасць на газетна-часопіснай плошчы. Тым не менш, нават літаратурная практыка апошніх двух-трох гадоў, з'яўленне новых часопісных ("Дзеяслоў", "Паміж", "Zямля N") ды кніжна-выдавецкіх праектаў (дзейнасць "Другога фронту мастацтваў", сп. І.Логвінава, навінкі, падрыхтаваныя "Беларускім кнігазборам", "Кнігай" ды інш.), – сведчыць пра вострую патрэбу айчыннага прыгожага (і адносна прыгожага) пісьменства ў грунтоўна-аналітычнай, максімальна аб'ектыўнай – і разам з тым дасціпнай, палемічна-завостранай крытыцы. Ва ўмовах абвешчанай яшчэ напрыканцы XX ст. "татальнай дэканструкцыі" культуры і яе ж "татальнага крызісу" паўстае праблема ўжо не "вяртання" ("рэанімацыі", "рэстаўрацыі") "класікі жанру", а стварэння новай літаратурна-крытычнай прасторы... і "найноўшай" жа традыцыі.

Наталля КУЗЬМІЧ

*Беларускі дзяржаўны універсітэт*

## АСАБЛІВАСЦІ АГЛЯДУ КНІЖНАЙ ПРАДУКЦЫІ НА СТАРОНКАХ НЕСПЕЦЫЯЛІЗАВАНЫХ ВЫДАННЯЎ

Чытач з часам змяняецца. Спадзяваннямі і густамі чытацкай публікі шмат у чым вызначаецца лёс мастацкага твора, ступень папулярнасці яго аўтара.

Наш час спараджае адметны тып чытача – пераважна не далучанага да мастацкай культуры, непераборлівага, што не жадае і не здольны мысліць самастойна, а таму шукае ў кніжнай прадукцыі ў асноўным забавы. Літаратура становіцца прадуктам спажывецкай індустрыі, мае свой рынкавы кошт і не заўсёды паўстае запатрабаванаю пакупніком.

Сёння ў айчыннай літаратуры паступова сціраюцца сувязі ў ланцужку "літаратурны твор – крытык – чытач", больш таго – чыннік "крытык" у некаторых выпадках папросту выпадае. Літаратурная крытыка ўжо не столькі тлумачыць і ацэньвае твор, колькі сутыкаецца з неабходнасцю прыцягваць увагу чытача да кніжнай прадукцыі.

У неспецыялізаваных друкаваных выданнях практычна адсутнічае жанравая разнастайнасць літаратурнай крытыкі. У грамадска-палітычных выданнях з'яўляюцца, у асноўным, агляды кніжнай прадукцыі. Між тым, варта хутчэй гаварыць пра своеасаблівыя агляды-прэзентацыі, дзе размова ідзе не пра якіясьці вартасці ці недахопы кнігі, але даецца агульнае ўяўленне пра змест і аўтара твора, прычым галоўная роля адводзіцца забаўляльнасці. Але якім чынам дасягаецца займальнасць? У аглядах выкарыстоўваюцца: загалоўкі, што прыцягваюць увагу ("Среди изувеченных грез", "Не нужно съедать весь омлет"); уводзяцца рэаліі, знаёмыя шырокаму чытацкаму колу ("Даже неловко признаваться, уважаемый читатель... Как будто в том, что до сих пор не отличаешь "Ферри" от дешевой, но эффективной "Доси"... Но это факт – я не поклонница творчества Джона Фаулза" ("Советская Белоруссия (Беларусь сегодня)", 1 кастрычніка 2003 г.; наступныя цытаты ўзятыя з гэтага ж выдання. – Рэд.); выкарыстоўваюцца элементы стэрэатыпнай кніжнай прадукцыі: "...при желании читатель может найти свои излюбленные стереотипы "а ля латинос": роскошных страстных женщин и мачо в сомбреро, измену и ревность, кончающиеся револьверным выстрелом..." ("СБ (БС)", 3 красавіка 2003 г.); шырока ўводзяцца інтрыгуючыя падрабязнасці – на фоне размоўнага стылю аповеду: "Кому дело, что студентка филфака издала на собственные средства первый сборник?" ("СБ (БС)", 10 чэрвеня 2003 г.); "Кофеек с конфетками в фойе – это почти банкет по-европейски. А 80 лет в литературе – это такой же кусок истории, что можно подавиться, пытаясь осилить, точнее, осмыслить его за один присест..." ("СБ (БС)", 14 кастрычніка 2003 г.) і інш. Словам, у дачыненні да такога агляду варта гаварыць хутчэй не пра ўласна аналіз, але пра асабістыя ўражанні аўтара ды эмацыйнасць аповеду.

Зрэшты, зараз месца чытача заняў спажывец – ён, магчыма, і купіць кнігу, але няма гарантыі, што ён абавязкова яе прачытае.

## "ЛІНІЯ ФРОНТУ"




Не так даўно, на пачатку кастрычніка Другі фронт мастацтваў ладзіў у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры перформанс "Акцыя тры дні".

5 снежня па ініцыятыве Зміцера Вішнёва там жа адбылася чарговая імпрэза — сустрэча з нямецкай паэткай Уллянай Вольф. Яна нарадзілася ў 1979 г. у Берліне, з'яўляецца студэнткай Універсітэта імя Гумбальта, вывучае сучасную нямецкую літаратуру, англістыку і культуразнаўства. У сябе на радзіме паэтка карыстаецца прызнаннем і папулярнасцю.

Разам з Уллянай перад навучэнцамі ліцэя БДУ і студэнтамі БДУ культуры выступілі Зміцер Вішнёў, Альгерд Бахарэвіч і Вольга Гапеева — прадстаўнікі, па словах А. Бахарэвіча, "сучаснай, самай маладой і самай прагрэсіўнай, літаратуры". Прачытаўшы свае творы, яны пазнаёмілі слухачоў з новым выданнем — беларуска-нямецкім зборнікам "Лінія фронту", прэзентацыя якога ўжо адбылася ў Інстытуце Гётэ, у Літаратурнай майстэрні ў Берліне і Мюнхене, а літаральна за дзень да імпрэзы — у Віцебскім універсітэце.

Кніга змяшчае творы 14 аўтараў, палова з якіх — немцы: акрамя згаданай Уллянь Вольф, Андрэ Бём, Ян К. Фальк, Карла Раймэрт, Б'ёрн Кулік, Гі Хэльмінгер, Себасцян Каль, а іншыя 7 аўтараў — прадстаўнікі Другога фронту мастацтваў: Альгерд Бахарэвіч, Вольга Гапеева, Ілля Сін, Зміцер Вішнёў, Валькірыя Мартынава, Юрась Барысевіч, Віктар Жыбуль. Перакладчыкі — А. Бём, В. Гапеева, А. Бахарэвіч.

"На наш погляд, патрыятызм — гэта не гонар за сваю Айчыну, а боль за яе. Мы згодныя з Чэхавым, што грамадзянскі абавязак літаратара — быць не лекарам, а болем грамадства. Менавіта таму ў нашых тэкстах гэтак шмат брыдкіх, атрутных, здзеклівых вобразаў..." Пад гэтымі словамі Юрася Барысевіча, думаю, могуць падпісацца не толькі беларускія, але і нямецкія літаратары, прадстаўленыя ў "Лініі фронту". Справа ў тым, што спалучэнне творчых набыткаў прадстаўнікоў зусім розных культур і ментальнасцяў глядзіцца даволі арганічным — "Паэты супольна асэнсоўваюць вар'яцтвы нашага часу" (А. Бём).

Н. Д.

АТРЫБУТЫКА

## ЁСЦЬ ПРАФСАЮЗНЫ ГІМН!

Такія падзеі здараюцца не часта. На сённяшні дзень, здаецца, толькі ў прафсаюзаў Украіны ёсць прафесійны сімвал. Цяпер жа яго будуць мець і беларусы. Яшчэ вясной сёлетняга года Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі абвясціла закрыты конкурс на стварэнне свайго прафсаюзнага гімна. На гэты конкурс паступіла шмат рукапісаў, але шляхам старраннага адбору і ў выніку тайнага галасавання перамагла настаўніца з вёскі Востраў Ляхавіцкага раёна Ірына Мікалаеўна Войцік. Адначасова яна з'яўляецца аўтарам музыкі і тэксту.

Днямі адбылося ўрачыстае ўшанаванне пераможцы конкурсу і прэзентацыя яе сапраўды вартага шырокай увагі твора, які так і называецца "Гімн Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі". Ірыне Мікалаеўне ўручаны кветкі, заслужаная грашовая прэмія. Затым на прэс-канферэнцыі, дзе прысутнічалі журналісты самых розных рэспубліканскіх выданняў, на пытанні карэспандэнтаў адказвалі старшыня Федэрацыі Л. П. Козік, аўтар гімна І. М. Войцік, старшыня журы конкурсу, вядомы беларускі паэт Ул. І. Карызна і іншыя.

У зале гучыць прыгожая, чароўная мелодыя. Гімн пачынаецца словамі: "З'ядналіся мы ў сям'ю прафсаюзаў і будзем змагацца за лёс беларусаў". Дзевятнаццатага снежня, калі адкрыецца адрамантаваны і абноўлены Палац прафсаюзаў, эталонны запіс гімна можна паслухаць у выкананні прафесійных музычных калектываў. На свята ганаровым госцем, вядома ж, запрошана Ірына Мікалаеўна Войцік, якая ў адзін дзень стала знакамітай на ўсю рэспубліку.

В. К.

# КРЫТЫКА

Штуршком да стварэння дадзеных радкоў сталася ўвага, удзеленая творчасці Я. Лайкова ў зыходзячым годзе. Увага — па сённяшніх мерках вялікая. Захацелася прыгледзецца да творчасці маладога паэта бліжэй. Бо надта ж збянтэжыла мяне аналітыка І. Штэйнера, дакладней, размяшчэнне яе ў рубрыцы "Літаратурны партрэт" з падзагалоўкам "Штрыхі да партрэта Янкі Лайкова" ("Роднае слова" № 5 за 2003 г.). Збянтэжыла, бо пісаў доктар філалагічных навук на старонках не а гэта значыць, што партрэты іх яшчэ пішуцца. Канечне, даўно пара перастаць кіравацца савецкай традыцыяй пераводзіць творцаў з маладых у пенсіянеры і пісаць дысертацыі па творчасці памерлых (інакш пра сённяшнюю літаратурную Беларусь не ўведаюць нават на ёй самой). Вядома, маладых трэба падтрымліваць добрым словам і раздаваць авансы. Але, па-першае, неабходна, каб тыя добрыя словы і авансы не былі пустымі, а па-другое, нельга засяроджвацца на кімсьці адным і рабіць з яго ледзь не культ.




## ЯНКА ЛАЙКОЎ. ТВАРЭННЕ ЛЕГЕНДЫ — МІФ ЦІ РЭАЛЬНАСЦЬ?

менш саліднага, чым ён сам, часопіса. Спадар прафесар відавочна сімпатызуе біяграфіі маладога паэта і аналізуе ў дастаткова трывіяльным для пахвальбы ключы творчасць паэта. Цікава, што ў загалоўку ідзецца менавіта пра партрэт творцы, у артыкуле прафесар зазначае, што "вызначыць адзіную агульную аўтарскую канцэпцыю ўспрымання свету і мастацтва без кнігі паэта ... наўрад ці магчыма". А потым усё ж заключае, што "паэт шукае сябе". То, можа, хай спярша хоць намацае свой шлях, сфарміруе аблічча, з якога можна будзе пісаць партрэты і рабіць да іх штрыхі, а затым і думаць, ці запісваць Я. Лайкова ў класікі ці не.

Успамінаецца, што ў Інстытуце літаратуры неяк зацвярджалася тэма дысертацыі, звязанай з пакаленнем паэтаў, да якога належаць Л. Дранько-Майсюк, В. Шніп, Л, Рублеўская і інш. Дык некаторыя нават сумняваліся, ці можна яе зацвярджаць, бо, маўляў, яны ж яшчэ шмат чаго створаць, не выключана, што вельмі арыгінальнага,

Сёлета выданні змазолілі вочы чытачам "крытыкай" творчасці Я. Лайкова. "ЛіМ" за 11 ліпеня змясціў ажно "чатыры думкі пра адну кнігу". Было відаць, што аўтары і не думалі зрабіць канструктыўны аналіз творчасці маладога паэта. Але хацелі пахваліць, напісаць "штрыхі да партрэта". Выключэннем з'яўляецца артыкул Н. Капы, якая стварыла нават "палічкі" для характарыстыкі "Вогнепаклонніка". На іх нямала месца знайшлося справядлівай крытыцы шчырага слабых бакоў творчасці Я. Лайкова.

Давайце пагледзім на паэта Я. Лайкова без "раскруткі".

Шлях у літаратуры Я. Лайкова дастаткова банальны, нягледзячы на першую наўдалую спробу атрымання вышэйшай адукацыі. Ці ж мала такіх, хто меў з гэтым праблемы? А. Разанаў, А. Каско — першыя, хто прыйшоў у галаў (праўда, прычыны ў названых знакамітасцяў розныя, Лайкоў жа падобны да другога). Пачатак з публікацый у розных газетах, затым — першыя кнігі: канечне, у "Маладосці" (першацветаўская не ўлік), а потым (таксама дэбютная!) — у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Пры ўсім гэтым — пратэкцыя мэтраў. Загляніце ў "ЛіМ" за 31.10.2003 на старонку 13, дзе бацька Янкі ўспамінае таварыша па курсу, будучага доктара навук, "Ваню Штэйнера". Не дзіўна, што з такой традыцыйнасцю Я. Лайкоў атрымаў прызнанне менавіта ў колах традыцыйнага дыскурсу — інертнага і "цяжкага на пад'ём" ва ўмовах пераходу з дамінавання ў беларускай літаратуры "сена на асфальце" да валодання ініцыятывай суполак новай генерацыі. А дзе альтэрнатыўнае прызнанне? Але незалежныя (перш за ўсё ад тае інертнасці) выданні пакуль што не звяртаюць увагі на нібыта знакавую постаць літаратурнага асяродка маладых, хоць, да прыкладу, "ARCHE", здаецца іншы раз, толькі і робіць, што супрацоўнічае з тымі, каму да трыццаці.

Але ж урэшце пара трохі расказаць пра асабістае ўражанне ад "Вогнепаклонніка". Яно будзе, магчыма, занадта суб'ектыўным (зрэшты, як і большасць іншых матэрыялаў, прысвечаных творчасці паэта).

Адразу адзначу, што Я. Лайкоў — не мой паэт. Гэта я вызначаю па ступені запамінальнасці радкоў. Наўрад ці потым я яго буду цытаваць. Захацелася разабрацца чаму. Ведаючы, што мяне можа паланіць шыкоўная рыфма, у першую чаргу прыгледзеўся да сугучнасці клаўзул. Рыфмы не ўражваюць, у лепшым выпадку застаюцца шэрымі, што сімптаматычна і падобна да тэндэнцыі (а дзеяслоўныя рыфмы зусім зняможваюць). Рытміка больш чым традыцыйная. Лексіка, хоць і выкарыстоўваецца нярэдка неабгрунтаваная,

## МЕТАМАРФОЗЫ ВІКТАРА ЖЫБУЛЯ




Віктар Жыбуль працягвае прыемна здзіўляць чытацкую публіку — зусім нядаўна ў прыватным выдавецтве "Логвінаў" у беларускай серыі пабачыў свет чарговы зборнік яго ных вершаў "Дыяфрагма". З'яўляючыся на працягу апошніх гадоў адным з лідэраў моладзевага літаратурнага працэсу сучаснае Беларусі, Віктар тым не менш знешне выглядае (а, магчыма, толькі імкнецца выглядаць) сціплым маладым чалавекам без асаблівых прэтэнзій. Зрэдку ён дазваляе сабе публічныя выступленні (не блытаць з перформансамі-муміфікацыямі!), на якіх мы бачым зусім іншага Жыбуля. Лірычны герой і фізічная абалонка аўтара пачынаюць тады нейкім дзіўным чынам узаемадзейнічаць і мы бачым надзіва гарманічную і суцэльную творчую асобу. Аднак феномен Жыбуля нельга змясціць у рамках яго безумоўнага таленту выступоўцы. З'ява беларускае літаратуры пад найменнем "Віктар Жыбуль" — гэта цэлае поле яго даследаванняў.

Сёння мы пагаворым пра адну з праяў паэтыкі Жыбуля, а менавіта пра метамарфозы лірычнага героя. Славутымі папярэднікамі Віктара ў гэтым сэнсе выступаюць Рэмбо са сваім "П'яным караблём", Кафка ("Пераўтварэнне") і шмат якія іншыя творцы, чыя фантазія дазваляла ім без перашкод вандраваць па часе і прасторы, прымаючы самыя разнастайныя аблічы. І сапраўды: кім толькі ні быў наш аўтар у сваіх вершах, куды толькі ні сягалі яго мары:

Я спазнаў усё на свеце
ў паяднанні з абсалютам,
у разорах паднябесся
я насіўся самапётам.

Я кружляў ракетапланна
паралельна далягляду,
не выходзіў я з нірваны,
калыханы прахаладай.

Або вось такое:

*Я лётаю неўтаймаваным*
*вясёлым полтэргейстам...*

Адкуль у аўтара такое незвычайнае імкненне быць кімсьці іншым? Адказ на гэтае пытанне мы знаходзім у яго ным вершы "Пуп неба":

Я хачу быць пупам неба.
Паветранай ямай і чорнай дзіркай
быць я хачу.
**Там болей волі,**
**болей свабоды там.**
(Падкрэсл. аўт.)

Вось яна — першапрычына ўсіх метамарфозаў і пертурбацый: імкненне да волі. Сапраўды, свабода спрадвек служыла паэтам крыніцаю натхнення. Такое тлумачэнне цалкам адпавядае творчаму "я" Віктара. Толькі ж чаму ён, пераследуючы такія высокія мэты, прадуцыруе эстэтычна брыдкіх персанажаў: муміяў і мерцвякоў, маньякаў і садыстаў, кліентаў медыцынскіх лабараторый, адмарозкаў кшталту Фантамаса альбо Доктара Зло ("Я сяду за пульт кіравання Галактыкай і адсяку сабе рукі. Няхай усе ведаюць, што такое Свабода")? Не думаю, што яны з'яўляюцца "двайнікамі" і нават патаемнымі "alter ego" аўтара. Выключаецца таксама і так званая "сублімацыя творчасцю" аўтарскага лібіда. Чытач насамрэч мае справу са звычайным "прыкалваннем", анархісцкай "поўхай грамадскаму густу" з мэтай вызначыцца, зарыгінальнічаць, элементарным жаданнем таленту звярнуць на сябе ўвагу і набыць папулярнасць. І ў гэтым няма нічога заганнага, прынамсі, для паэта, а што Жыбуль — паэт, у мяне няма сумнення. Жыбуль — майстар кампазіцыі ("Трансфіліпунцыя"), яму належаць унікальныя тропы ("Трыбуна — века вока велатрэка", "расстраляй мяне сваім пяшчотным позіркам" і інш.). Так як Жыбуль — гараджанін, у яго ных вершах шмат тэхнакратычных тэрмінаў, што стварае ўражанне матэматычнасці, запраграмаванасці тэм, вобразаў і асацыяцый. Але паэт павінен быць дакладным. Тым больш, што ў параўнанні з тымі ж "гарадскімі" вершамі А. Глобуса нават "Кувалдаметрычная фундаменталь" нашага аўтара выглядае куды больш натуральнай і вартай чытацкае ўвагі.

Немагчыма ў кароткім артыкуле закрануць усе аспекты творчасці Віктара Жыбуля. Пакінем гэтую справу прафесійным крытыкам. Няхай яны і вызначаюць, кім усё-такі з'яўляецца наш сённяшні герой на небасхіле беларускага краснага пісьменства — Карлсанам, альбо Ікарам.

Янка ЛАЙКОЎ

спадабалася: адчуваецца любоў да Слова (можа, варта Я. Лайкову рэпрэзентаваць сябе як празаіка?). Магчыма, тут я не маю рацыі, але неразуменне некатарых слоў ні мне, ні іншаму чытачу не дае разабрацца ў апраўданасці іх выкарыстання, і ў дадзеным выпадку вінаваты аўтар. Метафорыка, вобразнасць — гэта тое, чаго ў аўтара не адбярэш. Але подых надуманасці адчуваецца. Містыка, рэлігійнасць падмяняюць сабою паэтычнасць, дакладней апераванне катэгорыямі містыкі і рэлігійнасці стварае ўражанне паэтычнасці. Такі прыём характэрны для субтыльных пачаткоўцаў: яны самі падманваюцца, нібы каўтаюць прынаду, і спрабуюць падмануць іншых, што ўдаецца нават у асяродку інтэлектуалаў, як у дадзеным выпадку. Валодаючы шырокім гуманітарным кругаглядам, паэтычнасць сапраўды з лёгкасцю можна высмактаць з таго матэрыялу, з якога лепяцца вершы, і не толькі Я. Лайкова.

Выснова, якую зрабіў, неарыгінальная. Я. Лайкоў перажывае перыяд вучнёўства (такіх у нас шмат). Добрыя ўзаемаадносіны і кантакт з мэтрамі, доступ да той літаратуры, што мэтрам у яго ўзросце была недаступна, нягладкая і разам з тым класічная для беларускіх літаратараў біяграфія — усе гэтыя і не толькі чыннікі спрыяюць тварэнню легенды. Такая рэальнасць нашага постсаўдэпаўскага літаратурнага дыскурсу.

Па моцы, а магчыма, і патэнцыялу таленту побач з Лайковым чамусьці хочацца паставіць Славаміра Адамовіча. Аднак апошні сваю вядомасць, як ні круці, сам "выседзеў" і "вышыў".

Творчасць Я. Лайкова ўжо пачала адзначацца прэміямі — афіцыйнымі. Але наўрад ці яго імя будзе фігураваць сярод прэтэндэнтаў на які-небудзь "Гліняны Вялес". Вельмі хацелася б памыліцца. Таму спадзяюся, што неўзабаве паэт заявіць пра сябе не толькі і не столькі станоўчымі рэцэнзіямі і водгукамі сваіх сяброў і прыхільнікаў, але сталымі па форме і па змесце кнігамі.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# АНКЕТА ШТОТЫДНЁВІКА "ЛіМ"

***Шаноўныя чытачы, прамінуў яшчэ адзін год зямнога жыцця. Ніхто і нішто вакол нас не памаладзела, толькі вечнасць памудрэла на яшчэ адзін сівы волас...***

***Хочацца думаць, што і мы, беларусы, пэўным чынам спрычыніліся да той вечнай луні і светласці, што ёсць там і наш забел і наша "досадная седина". Страціўшы мову, ці захавалі слова?.. І што за тым словам? Дума, жальба, дзея? Змірэнне, умацаванне, спадзеў?***

***Хацелася б падрахаваць ясельны ўзрост новага стагоддзя, разважаць, параіцца... "Ад нулявой адметы веку" наноў праехаць сваім вузкім літарацкім колам па сваіх жа творчых капінах.***

**1. Ці з'явіліся, на вашу думку, на парозе трэцяга тысячагоддзя ў сучаснай беларускай літаратуры мастацкія творы (кніжкі, публікацыі, літаратурныя праекты), што сталіся не толькі новымі, але і *знакавымі.* Калі — так, то што гэтаму паспрыяла, калі — не, то што перашкодзіла?**

**2. Мужчынская і жаночая літаратура... Ці ёсць насамрэч падобнае творчае падзяленне? Што б вы маглі сказаць адносна жаночага і мужчынскага творчага мыслення і вычування, а таксама схільнасці да той ці іншай літаратуры мужчын і жанчын, як патэнцыяльных чытачоў?**

**3. Маральнасць у творчасці сучасных літаратараў, як яна вамі разумеецца? Наколькі сёння гэтае пытанне з'яўляецца актуальным і як яно ўплывае на чалавечую духоўнасць і нацыянальную культуру?**

**4. Што вам падабаецца ў штотыднёвіку "ЛіМ", што не? Якія рубрыкі і чые аўтарскія публікацыі вас цікавяць найбольш? Што вы самі прапанавалі б дзеля паляпшэння формы і зместу газеты?**

**Ці падпісваецеся вы на "ЛіМ" (набываеце ў шапіках) альбо — не (прычына)?**

**5. Якія крокі насустрач з абодвух бакоў могуць, на ваш погляд, паспрыяць збліжэнню пазіцый раз'яднаных літаратурных груповак дзеля захавання аслаблай нацыянальнай культурнай і духоўнай прасторы (мовы, літаратуры, мастацтва, традыцый) — беларускай дзяржаўнасці агулам?**

*Адказы на анкету (аб'ёмам не больш як 3 машынапісныя старонкі праз два інтэрвалы) рэдакцыя прымае да 15 лютага 2004 года. Да анкеты прыкладваюцца: фотакартка, кароткая біяграфічная даведка, адрас ды пашпартныя звесткі (у тым выпадку, калі рэдакцыя іх не мае). Запрашаем да ўдзелу ў анкеце, як сяброў розных літаратурных суполак, так і нашых няштатных аўтараў і чытачоў.*

# ВЕРШ НА ДАЛОНІ



Адна з самых яркіх асобаў сучаснай рускай паэзіі нядаўна наведала Мінск, дзе са сцэны філалагічнага факультэта БДУ чытала свае вершы. Жанчына-містыфікацыя, існаванне якой ставілася пад сумненне пасля выхаду ў свет разварота з яе 72 вершамі ў газеце "Сегодня", лаўрэат Вялікай прэміі імя Апалона Грыгор'ева Акадэміі рускай славеснасці за 2000 год — "За яркую індывідуальнасць, пашырэнне дыяпазону паэтычных сродкаў і жыццесцвярджальны пачатак". Агульнапрызнаны эратызм яе паэзіі мяжуе з ненарматыўнай лексікай, але і апошняя страчвае магнетызм табу на нецэнзурнасць пад вытанчанасцю яе параўнанняў і лаканізмам формаў. Вера Паўлава.

Хударлявая, чарнавокая жанчына ў шэрай сукенцы па-дзіцячы вуглавата рухаецца па сцэне ад мікрафона да пластыкавага кубачка з вадой на стале. Непасрэдна-мілая ў вербальнай непрадказальнасці — гіпатэтычны мат прымушае аўдыторыю філолагаў пакрысе аваладваць позай сурка, каб ўжо больш не выходзіць з перманентнага стану напружанай пакутлівасці.

—Я вельмі рэдка выкарыстоўваю ненарматыўную лексіку, — лукавіць паэтка, — кожны раз намагаюся аформіць гэта так, каб ужытае слова страціла сваю ненарматыўнасць. Гаворка, пэўна, ідзе пра мой верш "В подражание Ахматовой". У ім, мне здаецца, цалкам удалося "размагніціць" мацерное слова.

Што для Веры Паўлавай каханне?

— Тое, што больш за вершы, — кажа яна.

Для паэткі, якую падазраюць у спекуляцыі гендэрнай праблематыкай, па яе словах, не існуе такой праблематыкі ўвогуле. "М" і "Ж" — агульнавядомыя літары, накрэмзаныя на дзвярах грамадскіх туалетаў, для яе — нават не прыналежнасць да полу, а Мёртвае і Жывое.

— Я абіраю Жывое, — кажа Вера Паўлава. — А гендэрнасць, мабыць, праяўляецца толькі ў тым, што жанчына не мае магчымасці напісаць вершы накшталт наступнага: " Я пайшоў у кабак, напіўся жудасна, п'яны тут валяюся..." Рэчы, на якіх, у асноўным, будуецца мужчынская паэзія, для жаночай паэзіі "заказаны".

Што ёсць у жаночай паэзіі? Каханне. Смяротнае і бессмяротнае, як у Паўлавай.

*Бессмертие — род бессонницы.*
*Бессонница — бессмертия род.*
*За мною бессмертие гонится,*
*Если догонит — убьёт.*
*А не догонит — согреется,*
*Плоть обретёт и кровь,*
*Выключит свет,*
*Разденется,*
*И сделает мне любовь.*

Адмаўленне ад бессмяротнасці суісное побач:

*Облака плывут на спине*
*Мимо зноя, вдоль синевы,*
*Повернись спиною ко мне*
*И иди со мною на Вы.*
*От меня на Запад плыви,*
*Затмевая солнечный свет.*
*Нет на свете вечной любви,*
*Потому что Вечности нет.*

Манера чытання — павольна-пявучая; словы кранаюць холадам адзіноты і гарачынёй подыху жанчыны, якая кахае. Нават адлюстраванне сексуальнай плоці ў кантэксце сусветнага ню, не здаецца нечым штучна надуманым, бо прыгажосць і натуральнасць нельга перайначваць, яе магчыма і належыць услаўляць. Пажадана, прагнымі вуснамі.

Калісьці яна, нарадзіўшыся ў Маскве, скончыла Музычны каледж імя Шнітке і Акадэмію музыкі імя Гнесіных па спецыяльнасці "гісторыя музыкі". Працуючы ў Музеі Шаляпіна, ужо сама стварала музыку. А друкавацца паэтка пачала ў 24 гады. Яе кнігі — «Небесное животное»(1997), «Второй язык»(1998), "Линия отрыва"(2000), "Четвёртый сон"(2000), "Интимный дневник отличницы"(2001), "Совершеннолетие"(2001) — знайшлі адбітак у апошняй па часе кнізе вершаў "Вездесь", якая убачыла свет у мінулым годзе.

— Музыка і паэзія для мяне — адно і тое ж. Верш — гэта сімфанічная партытура, а выкананне верша — гэта, у лепшым выпадку, клавір, — звярнулася перад чытаннем да слухачоў Вера Паўлава. — Калі я буду чытаць вершы, я буду іх увогуле пераказваць прозай, таму што самае галоўнае — гэта дзіўная раўнавага гарызанталі і вертыкалі. Калі проза — гэта складанне ў радок, дык вершы — гэта памнажэнне ў слупок. У ідэале верш павінен зліваецца ў нейкі акорд, — кажа яна і тут жа просіць прабачэння, — але ў мяне сення акорда не атрымаецца. Атрымаецца нейкая мелодыя з трох частак: старых вершаў, вершаў з апошняй кнігі і вершаў, якія яшчэ нідзе не друкаваліся.

Аптымальны памер верша згодна Паўлавай — адзін нырок. Каб магчыма было нырнуць і аднаго ўдыху хапіла б на верш. Ці другая адзінка вымярэння — адна запалка, каб верш можна было б паспець прачытаць пры яе святле. Ёсць і трэцяя адзінка вымярэння — каб вершы было магчыма напісаць на далоні.

— Таму, што вершык — шпаргалка для адказаў на Страшным Судзе. Таму вершык павінны быць кароткім. Ці гэта — мытная дэкларацыя каштоўнасцей, якія ты правозіш з сабою на Той свет. Таму ў вершах павінны быць самыя лёгкія, самыя патрэбныя, самыя кампактныя словы, інačай — не прапусцяць, — кажа паэтка, тры чвэрці вершаў якой, па яе асабістым прызнанні "аседаюць" у чарнавіках і па-за межамі кніг. Пры гэтым азначаная прапорцыя застаецца нязменнай на працягу вось ужо 20 год — столькі, колькі працуе Вера Паўлава.

*Нежность не жнёт и не сеет,*
*Духом святым сыта.*
*Что же она умеет?*
*Только снимать с креста.*
*Тут не нужна сила,*
*Тело Его легко,*
*Настолько, что грудь заныла*
*Будто пришло молоко.*

На пытанне ад слухача — "Што рабіць, калі вельмі хочацца, а не атрымліваецца?" — паэтка шчыра адказала: "Плакаць". Хоць сама знайшла адказ на гэтае пытанне раней на адну мытную дэкларацыю, на адну запалку, на адзін нырок.

*Против течения крови*
*Страсть на нерест идёт,*
*Против течения речи*
*Слово ломает весло,*
*Против течения мысли*
*Снов паруса скользят,*
*Я плыву по-собачьи*
*Против течения слёз.*

**Алена ГОРМАШ**

## ВЫДАННІ

# ІМЕМ НЯЎМОЛЬНЫМ СВАБОДЫ

**Пад такою назвай нядаўна выйшаў зборнік украінскай паэзіі ў перакладзе на беларускую мову Алеся Траяноўскага (Мінск, 2002, на жаль, надта малым накладам у 299 асобнікаў). Гэта сапраўдны падарунак чытачам, каштоўны не толькі тым, што ўбачыў святло ў нялросты для абедзвюх краін час. Ён знаёміць беларускага шанавальніка літаратуры з замоўчанымі, а то і забароненымі постацямі, творчасць якіх і на Украіне шырокай супольнасці стала вядомай зусім нядаўна.**

**Аснову зборніка склалі пераклады вершаў Аляксандра Олэся, Алега Ольжыча, Алены Тэлігі, Грыцька Чупрынкі, Уладзіміра Самійлэнкі і Дмытра Фалькіўскага (у сярэднім па 10-30 вершаў з даробку кожнага). Апрача таго, прадстаўлены вершы іншых паэтаў, таксама з ліку несправядліва забытых: Марка Антыёх, Васыль Бабінскі, Алекса Влызько, Міхайла Драй-Хмара, Дмытро Загул, Мікола Зэраў, Майк Ёгансан, Іван Крушэльніцкі, Яўген Плужнік, Якаў Саўчанка, Уладзімір Свідзінскі, Алекса Слісарэнка, Людміла Старыцка-Чарняхіўска, Паўло Філіповіч, Мікола Чарняўскі. Зборнік выдадзены з густам, у ім змешчаны партрэты паэтаў, пра іх дадзены сціслыя біяграфічныя нарысы, у прыватнасці з прац Максіма Рыльскага і Яра Славуціча, падкрэслены повязі асобных (Драй-Хмара) з беларускай літаратурай.**

**Юрый МЫЦЫК,**
**протаіерэй, прафесар Кіева-Магілянскай акадэміі**

ІМПРЭЗЫ

# ВЕЧАРЫНА БЕЛАРУСКА-ЛАТВІЙСКАЙ ДРУЖБЫ

**У Віцебску ў Літаратурным музеі прайшоў аўтарскі вечар паэта Станіслава ВАЛОДЗЬКІ. Вершы беларускага літаратара з латвійскага горада Даўгаўпілса чыталі выхаванцы Латышскай нядзельнай школы, што працуе пры Генеральным консульстве Латвіі ў Віцебску. І сам С. Валодзька, чытаючы свае творы, знаёміў прысутных з латвійскімі і беларускімі выданнямі, дзе яны друкаваліся, і падараваў Літаратурнаму музею свае кнігі і дыск песень на ўласныя вершы кампазітара Міколы Яцкова.**

**Вяла імпрэзу дырэктар музея Святлана Казлова. Са словамі прывітання выступілі супрацоўнік аддзела культуры Віцебскага гарвыканкама Ігар Баярынцаў, старшыня Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Франц Сіўко, загадчыца кафедры беларускай мовы і літаратуры Віцебскага універсітэта імя Машэрава паэтэса Вольга Русілка, паэт Давід Сімановіч.**

**Адметна, што вечарына адбылася адразу пасля дня нараджэння віноўніка ўрачыстасці і напярэдадні Дня Незалежнасці Латвіі. Тут прысутныя змаглі пазнаёміцца і з выставай, прысвечанай вялікаму латышскаму паэту, сябру беларусаў Яну Райнісу, маці якога пахавана ў Віцебску.**

**Цікавасць да вечарыны праявілі таксама студэнты, мясцовыя мастакі, прадстаўнікі прэсы і тэлебачання.**

**Н.К.**

ГАСТРОЛІ

# НАШЫ НА ТЭЛЕКАНАЛЕ "КУЛЬТУРА"

**У Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная гастролям Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага ў Маскве. Гастролі праходзілі з 22 па 29 лістапада. Нагадаю, што 24 лістапада ў памяшканні тэатра імя Вахтангава дэманстраваўся спектакль "Перад заходам сонца" (паводле твора І. Гауптмана), які паставіў акадэмік Міжнароднай акадэміі Тэатра Барыс Луцэнка, а галоўную ролю сыграў Расціслаў Янкоўскі. 26 лістапада прайшоў спектакль "Сон на кургане" па паэме Янкі Купалы ў пастаноўцы Барыса Луцэнкі. А 27 — у памяшканні Тэатра Нацый быў паказаны спектакль "Дземетрыус" Ф. Шылера. Унікальнасць пастаноўкі заключаецца ў тым, што гэта драма аб рускай смуце не была дапісана аўтарам... Тэлеканал "Культура" вёў прамую трансляцыю гэтага спектакля, што наогул незвычайна для Масквы. А расійскае тэлебачанне брала інтэрв'ю перад кожным спектаклем Тэатра імя М. Горкага з Мінска.**

**Акрамя таго, адбылася сустрэча акцёраў тэатра з творчай інтэлігенцыяй Масквы. "На спектаклях прысутнічала шмат вядучых тэатраведаў Масквы, прадстаўнікоў творчых саюзаў, рэжысёраў тэатра і кіно. А такая палітра прафесіяналаў сустракаецца не часта", — падкрэсліў міністр культуры Беларусі Л. Гуляка. Гастролі Рускага тэатра ў Маскве праходзяць у трэці раз за апошнія 26(!) гадоў. Першая паездка была ў маі 1977 года, другая — у снежні 1998 года.**

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

# ПАЭЗІЯ

**Анатоль ШУШКО**



## ЗОЛАК НА ВОЛІ

*або*
*Пасля загарання —*
*бульбы капання —*
*у полі,*
*бо:*
*— Нясу на плячах пацалункі сонца,*
*дзеля якіх гарбеў*
*і карпеў мой гарапашны*
*РА*,*
*каб затым*
*РАдавацца,*
*гРАючы,*
*кРАнаць, дакаРАючы,*
*паміРАць,*
*наРАджаючы,*
*каб Разам*
*Расці і Раіцца*
*У Раі*
*заўтРАшняй Раніцы.*

## ДЫЯЛОГ З ВОЛЯЮ

*— У шчырай бяседзе*
*За шчырым застоллем*
*Душа мая недзе*
*Блукае прыволлем.*

*Чаму я, такенькі, —*
*Журбую, нуджуся?*
*Яшчэ ж без кавенькі,*
*Мо, перараджуся?*

*Яшчэ ж барада мая,*
*Вус — не сівыя?*
*Ці, мо, што Адамавы*
*Сцежкі крывыя?*

*— Дурненькі! Слязінаю*
*Не папырхайся.*
*Сцяжынай адзінаю*
*Йдзі,*
*папіхайся*
*Кійком сваім болей*
*Аб ейную вечнасць.*
*Сябе — задавольвай,*
*Мне — долю аблегчвай...*

•

**Раі П.**

*Ты блаславі на трыялет*
*Без прадузятасці, свядома,*
*Калі далёка мы ад дома,*
*Ты блаславі на трыялет.*

*УСЁ, на чым трымаўся свет:*
*Наш сад — той рэй і рай, вядома.*
*Без прадузятасці, свядома*
*Ты блаславі на трыялет.*

## "ВОНО"

*Дома.*
*Апасля Яблычнага Спасу.*
*Мой былы і сягонняшні сусед — дзядзька Сярожка: нізенькі, затое дужа рухавы ды жылісты дзядок, яшчэ знаддалёк павітаў мяне ўзмахам куртатай, з малечых дзён знаёмай рукі. Затым пакрыёма прырульваў разорамі, каб падаць адмыслова-шурпатую даланю — паздароўкацца.*
*Завялі гаворку "за жысцю". Запалілі па "прымацкай прыміне". Разгаманіліся, раскумекаліся, разгавеліся...*
*І тут... О, дзяцінства!!!*
*Ягоная жонка, мо, на пазюр ніжэй гаспадара, глухаватая, затое гожа гаваркая (дый рупліўца — свет бачыў!), спрытная цётка Алеська раптам з-за плоту амаль што адаўбешыла свайго рахманага "семяніна", а разам з тым і мяне, звонкай, непрыкаяннай жаночай шчырасцю. Сын Мікіты (трымае, бач, у руках каня!) займеў недзе права астаграміцца.*
*— Гэта чого воно тутыка!.. Я бо думаю дэ воно ходыть!.. Іды дохаты, путо, помогаты!.. Горэ з тобою, Сірожка, горэ... Не, коб воно коло мынэ... Шчэ ж роботы дохалеры!.. А воно вжэ, ты подывыса, — у сусіда!..*
*І гэтак далей, усё далей, найдалей...*
*Падумалася: "А па праўдзе кажучы, мову крывічанскую спасціг я не толькі з удзячнай матулінай — слуцацкай, каторая нас з сястрою запаўняла ў бацькоўскай хаце, але і ГЭНАЙ — сташанскай, дрыгавічанскай, што наталяла і наталяе дасюль адно ёй уласцівым досціпам: "осёднэ, отондэ, огэндэ, огындаль, отамыка, отутыка... Окурат!"*
*Паляшуцкая, палешуковая, пошукавая...*
*"...мілае, дарагое сэрцу, што боскай ласкаю ушанаванае, сяло Сташаны! Ты і дасюль беражэш, як і берагло, сябе дзеля нас — малодзіўных маладзёнаў, якія чамусь і пасёння няздольныя паразумляцца, пагаджацца з тваімі бесперастаннымі воклічамі. А шкада. Во непаразуменнем прошлага з прышлым праз пространь бяседу не завядзеш ані. Як не пані! Будзе вострай. А будучыню шукаюць усе. Дзе ж яшчэ прытуліцца ільга, як не пры тваім прыпечку-загнеце побліз матчынай спадніцы, каб затым забачыць ДУХ — гарачы бохан хлеба, які стане мірна стыць на ўслоне, калі Я з Божаю ласкаю ўласнымі ручанятамі абмыю ягоны твар сцюдзёнай калодзежнай вадою і ахіну доўгім саматканым ручніком...*
*Адвеку заўжды няўтульна, калі нестае менавіта ЯЕ — МАМЫ. Таму і гучыць прасветлена і высозна:*
*— А воно вжэ, як бач, у сусіда!*

*С.А. (Слова апасля.) Вось гэтак вось, мужыкі, гоі-воі! Мы у нашых баб не тое, што боб у гародзе, а ў НІЯКІМ родзе.*
*Мы — дзеці.*

---

РА* — Бог сонца ў старажытнай міфалогіі.

**Аляксей БРУЙ**



**Аляксею БРУЮ 4 лістапада споўнілася 15 гадоў. Ён вучыцца ў 9 класе СШ № 137 г. Мінска. Выдатнік. Пераможца ўсіх школьных алімпіяд, а таксама алімпіяды па геаграфіі, якую праводзіў Першамайскі раён нашай сталіцы.**

**Вершы Аляксея для ягонага ўзросту незвычайна дарослыя, нават крыху засур'ёзныя. Але галоўнае — у іх ёсць тое, што называецца паэзіяй.**
**У "ЛіМе" друкуецца ўпершыню.**

•

*Зноў папанаю*
*я ў глыбокім задуменні...*
*Мне цяжка ў гэтым свеце грэшных*
*жыць, тварыць:*
*Мяне пакінулі дайно*
*мае натхненні,*
*Душу маю сціскаюць*
*гонару камені,*
*І сэрца*
*вогнішча жаданняў папяліць.*

*Я не магу забыць былыя перамогі,*
*Былых знамёнаў*
*непакорны сілуэт...*
*І хай цяпер чужымі родныя парогі*
*Здаюцца мне,*
*і хай шукаюць багны ногі,*
*Але душою быў заўсёды я... паэт.*

*Я быў заўжды*
*рабом паэзіі высокай,*
*І хай не ведала рука мая пяра,*
*Ды дума ўсё ж была*
*нястрымана далёкай*
*Ад свету гэтага*
*і ў высі той глыбокай*
*Нястрымана сваёй яна была.*

•

*Прабач ты мне,*
*што я цябе кахаю,*
*Такі нязграбны у сваім каханні —*
*Цябе я промнем сонца называю,*
*Але што ён з табой у параўнанні.*

*Прабач ты мне,*
*што я цябе прыдумаў,*
*Увёў у свет адчаю і трывогі.*
*Цяпер ты у маёй*
*краіне Думаў,*
*Мае табою валадараць богі.*

*Прабач ты мне,*
*што я цябе жадаю*
*Сваёй распуснай марай*
*штоімгненна.*
*Прабач мне за яе ты, дарагая.*
*Я — ведаю —*
*няварты прабачэння...*
*Прабач ты мне за тое,*
*што я ёсць.*
*Прабач. Прабач. Я ў марах —*
*толькі госць.*

## ЯБЛЫНЕВЫ САД

*Акунаецца ў ноч наш аголены сад,*
*Ціха яблыкі спяць у асенняй цішы,*
*Месяц срэбны*
*кідае на іх свой пагляд,*
*І навокал ніводнай душы.*

*Толькі цемра і восень...*
*А яблыні сняць*
*Цяпло яснага сонца*
*далёкай вясны.*
*Яны мараць:*
*"Жыццё бы нанова пачаць..."*
*І пра гэта іх светлыя сны.*

*Ім усім зараз мроіцца будучынь іх,*
*Але бачаць жыццё яны,*
*а не свой скон...*
*Дрэўцам сніцца вясна —*
*царства вечна жывых.*
*...Але сад гэты —*
*гэта мой сон...*

*Усяго толькі сон!*
*Але гэта боль мой.*
*Прачынаюся ўміг*
*у пакутах нямых.*
*Разумеючы,*
*што сёння побач са мной:*
*Шмат трывогі і думак цяжкіх.*

*...Я жыццё ўсё імкнуўся,*
*як ён, толькі ў сне*
*Бачыць сонца сваё,*
*бачыць дзень маладым,*
*Ды прыходзіць аголены сад*
*да мяне,*
*І самотная восень заўжды.*



Я.Тарасевіча, С.Рахманінава, М.Глінкі, завяршыўшы сваю праграму папулярнай старонкай бацькоўскай спадчыны — - "Мінскім вальсам" М.Шуміліна.

Што ж асабліва ўразіла гасцей імпрэзы? Безумоўна ж, тое, як сп. Браян Бэнет спявае англійскія песні пра каханне (яго тэнар цудоўна раскрыўся і ў больш стрыманым галантным стылі, і ў пачуццёвай стыхіі музычнага рамантызму). І тое, як сп.Валерый Гедройц чытае вершы Шэкспіра на мове вялікага класіка ...

Як падкрэслівала дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі Зінаіда Кучар, вядучая вечарыны, культурныя сувязі -- самы дзейсны сродак зносінаў паміж народамі й дзяржавамі. Безумоўна! Што ж можна дадаць да гэтай аксіёмы, мудрасць якой выпрацавана і выпрабавана за доўгую гісторыю чалавецтва? Хіба толькі адно: універсальнай мовай "паспа міру" , якая не мае патрэбы ў перакладчыках, застаецца музыка. Найдалікатнае з мастацтваў, музыка ў якi ўжо раз бліскуча выканала сваю дыпламатычную місію —- паспрыяла яшчэ аднаму кроку насустрач у стасунках дзвюх еўрапейскіх краін. І дапамагла адчуць перспектыву ў кантактах своеадметных народаў Беларусі ды Вялікабрытаніі.

С.БЕРАСЦЕНЬ

*Фота К.ДРОБАВА*

*НА ЗДЫМКАХ: хор "Менка"; спявае Браян БЭНЕТ, пасол Вялікабрытаніі.*

фатографам Аляксеем Ільіным, а таксама вельмі цікавая серыя фатаграфій, якія распавядаюць пра рабочыя моманты фільма. Шкада толькі, што музей не можа сабе дазволіць дэманстрацыю самога фільма ці яго частак — на набыццё адпаведнай тэхнікі папросту не хапае грошай.

"Многія нашы мары не збыліся, — з засмучэннем прызнаюцца мастачкі-арганізатары выставы. — Мы марылі пра белыя каменныя сцены, але не сталі здымаць у Мірскім замку. Мы не хацелі зеляніны, марылі пра голыя дрэвы, гразь і снег, і дачакаліся ўсяго гэтага, але не знялі. Шмат што не атрымалася, але мы ўпэўненыя, што намаганні і высілкі тых, хто ствараў "Анастасію Слуцкую", не былі дарэмныя. Фільм зараджаны патрыятызмам нашага народа, ці, калі вам падаецца, што гэта занадта пафасна, зараджаны шчырасцю".

Выстава ў Музеі гісторыі кіно прапаноўвае ўсім жадаючым унікальную магчымасць убачыць вынік самаадданай працы вялікай каманды мастакоў, касцюмераў, шаўцоў, ювеліраў нават бліжэй, чым яго разгледзела кінакамера. Са шчырага дазволу арганізатараў кранаць экспанаты рукамі — дазваляецца.

Юлія ПАЛАЧАНІНА

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

***Леанарда да Вінчы (1452-1519) – славуты італьянскі жывапісец, скульптар, архітэктар, інжынер, вучоны... Ён з'яўляецца шырокапрызнаным аўтарам шматлікіх адкрыццяў, праектаў, вынаходніцтваў, эксперыментальных даследаванняў у розных галінах, але менш яго ведаюць як літаратара. Для знаёмства з гэтым бокам творчасці слыннага італьянца прапануем два невялічкіх яго творы са зборніка "Афарызмы, навелы, прароцтвы".***



**ЛЕАНАРДА ДА ВІНЧЫ**

## ВОЧЫ ДЗІЎНАГА КОЛЕРУ

Адзін чалавек, сустрэўшы свайго знаёмага, заўважыў:

– А ў цябе вочы сталі нейкага дзіўнага колеру.

Знаёмы адказаў, што гэта яго асабістая справа.

– І ўсё ж, – не супакоіўся той. – Няўжо ты не лечышся?... Калі гэта з табою здарылася?...

І пачуў:

– Ды кожны раз вочы мае, угледзеўшы твой твар, ад перажытага ўражання ўміг блякнуць, набываюць дзіўны колер.

## МАСТАК, У ЯКОГА БЫЛІ НЕПРЫГОЖЫЯ ДЗЕЦІ

Аднойчы мастака запыталі, чаму ў яго такія прыгожыя карціны, хоць гэта і мёртвыя рэчы, а разам з тым такія непрыгожыя дзеці.

На што мастак адказаў:

– Карціны я ствараю днём, а дзяцей уначы.

**Пераклад з італьянскай мовы Уладзіміра ЧАРОТЫ**

# ПАМІЖ АЙЧЫНАЙ І "ОТЕЧЕСТВОМ" – ПРАЕЗДАМ...

***Таленавітаму рускамоўнаму паэту і перакладчыку Валерыю ГРЫШКАЎЦУ 23 снежня спаўняецца 50 гадоў. Рэдакцыя "ЛіМа" віншуе свайго пастаяннага аўтара з юбілеем і прапануе гутарку з ім паэта Алеся КАСКО.***

***— Са сваіх пяцідзесяці ты і палову гадоў наўрад ці пражыў на радзіме. У шаснаццаць, ледзь атрымаўшы пашпарт, пакінуў родны Пінск і дзе толькі і кім толькі не пабываў: вінаградарам у Крыме, матросам на Верхнім Дняпры, геолагам у Іркуцкай вобласці, мантажнікам "Брацкхімбуда", будаўніком у Бураціі, калгаснікам у Літве... Цяпер вось — у Маскве. Як паэт і перакладчык, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза пісьменнікаў Расіі, ты нямала робіш для папулярызацыі нашай літаратуры за межамі краіны. Ці не так?..***

— Я чалавек без асаблівых запатрабаванняў і прэтэнзій. Незабыўны Міхась Рудкоўскі, з чыіх вершаў я пачаў займацца перакладамі, даўно раіў паступаць у Літінстытут, але ў Маскву, на вышэйшыя літаратурныя курсы, я паехаў толькі ў сорак. Аднак пра Маскву марыў. Меркаваў, што менавіта там мой асяродак, толькі там дакажу сабе, што я літаратар. Скажаш, а Мінск? Тут адмахваліся і ад арыгінальных вершаў, і ад перакладаў. Нават у "Нёмане", не кажучы ўжо пра выдавецтвы. Другі зборнік вершаў выйшаў ажно праз дзесяць гадоў пасля першага, а трэці не выйшаў зусім. Тады вельмі зважалі на тое, як сябе паводзіш, колькі выпіваеш, бралі пад увагу ананімкі, а яны прыходзілі... Пазней многае з таго, што адхілялася, апублікаваў у маскоўскіх ды іншых расійскіх выданнях. Але не буду крывіць душою: у 90-х гадах змяніліся мае стасункі з Мінскам. Стаў лаўрэатам часопіса "Нёман". Спадзяюся на выхад у наступным годзе новага зборніка вершаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Зрэшты, я шмат у чым змяніўся і сам. Пасталеў, нарэшце...

На Вышэйшыя літаратурныя курсы ў 1993-м мяне рэкамендавала пісьменніцкая сябрына рэспублікі, і ўжо гэта, як кажуць, абавязвала. І наогул, не думай, што не мучыся пытаннем: хто ўласна я? У дзяцінстве беларускай мове ў школе не вучыўся, пасля вандраваў па свеце. Да роднага даходзіў спакваля, праз кнігі ды праз іхніх аўтараў. Цяпер публікацыям сваіх перакладаў радуюся не менш, чым арыгінальных вершаў. Асабліва прыемна працаваць з творамі маладых, не вядомых шырокаму чытачу паэтаў, і тых, каго на рускую мову яшчэ не перакладалі.

***— Ці проста было "акліматызоўвацца" ў Маскве? Ёсць падставы думаць, што так. Шмат пішаш і публікуешся. За вершы і пераклады атрымаў прэмію часопіса "Москва", стаў лаўрэатам міжнароднай прэміі імя Андрэя Платонава...***

— Бестурботна прайшлі першыя два гады вучобы, а потым узніклі праблемы з жыллём, заробкам, друкаваннем. Дзякуй, падтрымлівалі землякі, найперш блізкія сябры Кажадуб, Кошаль. Ды не толькі яны. Сяброўства шырэйшае, чым зямляцтва. Супрацоўніцтва з маскоўскімі выданнямі пачалося з таго, што таленавіты паэт і празаік Барыс Яўсееў, былы сакурснік, прапанаваў пераклады для "Литературной газеты" вершы Анатоля Сыса. Іх тут жа і апублікавалі. Многім абавязаны Юрыю Кузняцову. Ён сам занёс мае вершы ў часопіс "Москва", пазней шмат друкаваў у "Нашем современнике". Ён жа даў рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў Расіі. Значным маральным стымулам для мяне было прысуджэнне прэміі імя Платонава. Дастаткова сказаць, што сярод яе лаўрэатаў — Валянцін Распуцін, Васілій Бялоў, той жа Юрый Кузняцоў ды іншыя знакамітыя пісьменнікі.

***— Яркая кагорта. Але што заўважылася: ты і міжнародную прэмію ахарактарызаваў толькі як маральны стымул. Як жывуць і выжываюць расійскія пісьменнікі ва ўмовах рынку і арганізацыйнай раздробленасці? Ці можна правесці хоць якую паралель паміж іхнімі ўмовамі і нашымі?***

— У Маскве, па-мойму, чатыры пісьменніцкія саюзы, якія па вялікім рахунку нічым не розняцца між сабою. Хіба што ступенню валодання спадчыннай маёмасцю былога СП СССР. У кожнага свае часопісы, ранейшыя і новыя, свае выдавецтвы, у якіх вобмель фінансаў. Ганарары мізэрныя, гаварыць пра іх тут лічыцца дурным тонам. Тое ж і з прэміямі: сёння яны ёсць, заўтра няма. Без фундатарства не абысціся. Прэмія імя Платонава, напрыклад, заснавана Маскоўскай чыгункай ды яе галіновао газетай, балазе Андрэй Платонаў у свой час быў машыністам паравоза. Апрача гэтай, у СП Расіі яшчэ звыш дзесятка прэмій, і кожная замыкаецца на якіх-небудзь ста доларах. І, у рэшце рэшт, пісьменнік жыве сам па сабе, хто як можа.

***— Наколькі маскоўскія і пісьменнікі, і чытачы ведаюць беларускую літаратуру? Тваё ўражанне.***

— Сучасную — ведаюць кепска. Ну, Быкава, Адамовіча, Казько, Кажадуба... З нядаўняга часу даволі вядомым стаў Мікола Купрэеў, якога я аднойчы перакладаў для "Литературки", для часопісаў "Дружба народов", "Москва", "Слово" ды іншых, пісаў пра яго. Перакладаю вельмі шмат і многіх. Стараюся "прыладкаваць", стукаюся ледзь не ва ўсе дзверы. Станоўча ацэньваю анталагічны зборнік "Из века в век. Белорусская поэзия", што выйшаў сёлета ў арыгіналах і перакладах на рускую. Прыстойнае выданне ва ўсіх адносінах.

***— Ты спрычыніўся да ягонага выхаду самым непасрэдным і самым актыўным чынам. А што ўдалося за "маскоўскі" перыяд зрабіць не толькі Грышкаўцу-перакладчыку, а і аўтару арыгінальных твораў?***

— Дзякаваць Богу, някепска працавалася, думалася. За гэты час падрыхтаваў галоўную, лічу, кніжку "Белые мосты" — вершы, проза, пераклады, частка дзённіка. А таксама новы зборнік "Я из тех...", дзе ў асноўным паэзія. Пісаў і працягваю пісаць цыкл эсэ "Бюро находок", у ім шмат і маскоўскіх, і беларускіх уражанняў. Пытанне — дзе і як усё гэта надрукаваць? У Маскве з кнігадрукаваннем не лепей, чым у вас... у нас.

Нягледзячы на пражытыя тут ужо дзесяць гадоў, масквічом я так і не стаў. У Маскве сумую па доме, па Пінску, прыеду — нуда ад зацішку, хочацца назад. Словам, па-ранейшаму раздвоены. Як будзе далей, не загадваю. Аднак у любым выпадку еднасць з Беларуссю — гэта назаўсёды. Хацеў бы перадаць праз "ЛіМ" прывітанне ўсім, хто мяне памятае. Сустрэнемся!



**Валерый ГРЫШКАВЕЦ**

* * *

*Красавік не звініць жураўлямі,*
*Снег на сопках да лета ляжыць*
*Напамінкам пра белыя плямы*
*На абшарах спрадвечнай глушы.*

*Кругавая смуга безгалосся.*
*Ні бяроз, ні асін, ні ялін,*
*Быццам лесу ўжо не засталося*
*На бяскрайніх прасторах зямлі.*

*Але раптам спагадлівы вецер*
*Прынясе п'янкі водар вясны*
*Ад лясных і садовых суквеццяў*
*Да халоднай чужой стараны...*

*Зноў згадаеш дамоўку і маму,*
*Пагукаеш здаля маладосць, —*
*Дзесьці неба звініць жураўлямі,*
*Дзесьці пахне бярозамі дождж...*

* * *

*Пазавешваны дарогі снегам,*
*Памяць аклікаюць цягнікі.*
*Дайце наталіцца сэрцу небам,*
*Гэтым чыстым небам. На вякі!*

*Дайце перадзімняга спакою;*
*Хай цячэ святлісты снегапад*
*Нада мной, над вамі, над зямлёю,*
*Як і шмат гадоў таму назад.*

*Стануць даражэйшымі бярозы,*
*І зямля, і людзі на зямлі*
*Ў гэты час,*
*на гэтай во дарозе,*
*На сумежжы восені й зімы.*

**Пераклаў з рускай мовы Іван ЛАГВІНОВІЧ**

# ЖЫЎ НАСЦЕЖ

## 27 СНЕЖНЯ АНАТОЛЮ ВЯЛЮГІНУ СПОЎНІЛАСЯ Б 80 ГАДОЎ



Упадабаў яго як чалавека з першай нашай сустрэчы у 1975 годзе. Я тады ў аддзеле культуры тыднёвіка "Голас Радзімы" апяваў суайчыннікам за мяжой росквіт беларускага мастацтва і літаратуры. Вось і надумаў даць рэпартаж з Дома творчасці "Каралішчавічы", як пісьменнікі, абагрэтыя клопатам і любоўю дзяржавы, твораць сваю "нятленку" аб перавагах сацладу.

Быў канец залатога, яснага верасня. Вакол пісьменніцкага ў два паверхі зруба, ашчаджонага некалі Якубам Коласам для сваіх братоў па пяры, дагаралі асіны ды бярозы, вабіў пахамі грыбніцы сасоннік, строміліся ў неба змрочныя яліны. Зямны рай — не меней! Сядзі сабе ды пішы...

Пісаць у гэтую пару ў Каралішчавічах надарылася Сяргею Грахоўскаму, Антону Бялевічу, Рыгору Барадуліну, Анатолю Вялюгіну, гісторыку Міколу Улашчыку ды некальким празаікам — зараз і не памятаю каму. Яны і былі героямі таго рэпартажу. Разам з фотакорам Яўгенам Казюлем патрапілі ў Каралішчавічы, калі пісьменніцкая грамада ўжо збіралася палуднаваць. Нас прывітна акружылі літаратары і адзін з іх, мажны і высокі прыгажун у сінім спартыўным касцюме і кедах, стрэліўшы іранічным вокам, нізкім голасам вырак:

— Журналістаў трэба накарміць — яны заўсёды галодныя, як лютаўскія ваўкі! — гэта і быў славуты /для мяне завочна/ Анатоль Вялюгін.

І нас павялі ў сталоўку.

Калі ўсталі з-за сталоў, Вялюгін падміргнуў аднаму з маладзейшых празаікаў і той знік за кухоннымі дзвярыма, неўзабаве вярнуўшыся з талеркаю, каптурыкам прыкрытаю міскаю...

Вялюгін заўсёды гасцяваў у невялікім пакоі на другім паверсе. Пакой быў сонечны — на два вакны: пожак, расхістаная канапа, некалькі крэслаў ды стол, уся сталешніца якога была ў белых колцах ад шклянак. На падваконніках ігралі вясёлкавымі бакамі слоікі з дарамі лесу. Адзін з баравікамі адразу пайшоў на стол... А ў знаныя ды званыя былі пакліканы гаспадаром — сябра Антон Бялевіч, малады празаік ды мы з Казюлем, які пашчоўкаў фотакамерай і хутка знік — паехаў дахаты. Бялевіч неўзабаве задрамаў на расхістанай канапе, малодшага празаіка гаспадар выправіў дапісваць ро́ман, а выпраўджваць /пра гэта я даведаўся потым/ ён умеў "канкрэтна".

Мы ж з ім выйшлі на праходку. Слова "шпацыр" ён не любіў, цярпець не мог паланізмаў. Анатоль Сцяпанавіч насунуў ад нізкага вечаровага сонца на самыя вочы легендарную шапку-масквічку, фацэтна абапіраўся на вылашчаны рукамі да бурштынавага бляску сукаваты ядлоўцавы посах і быў падобны на мудрага патрыярха. А ішоў яму ўсяго тады 52-гі год. Пыхкаючы цыгарэтаю, ён гаварыў пра паэзію, паэтаў, цытаваў па памяці безліч чужых радкоў.

— Вершы пішаш? — гэта як бы між іншым.

— Грашу трохі...

Згодна хітнуў галавою, маўляў, такой бяды — хто сёння не піша.

Спыніўся раптам. Паказвае посахам на белы стаўбун бярозы:

— Бачыш чорны пасак угары? Гэта я, калі дачка была малая, зрэзаў гэты пасак бяросты і зрабіў ёй набірку для ягад. І вось мінула больш дзесятка гадоў і чорны пасак узнёсся вунь ажно куды! Якраз, як у багдановічавай "Вераніцы":

*...І толькі надпіс "Вераніка"*
*На ліпе ўрэзаны ў кары,*
*Казаў вачам аб тэй пары.*
*Расці, ўзмацоўвайся дрэва,*
*Як манумент жывы, ўставай*
*І к небу надпіс падымай.*
*Хай нерухомы словы спева:*
*Чым болей сходзіць дзён, начэй,*
*Тым імя мілае вышэй.*

Гэты метафарычны масток, перакінуты Вялюгіным ад бяроставай набіркі да радкоў "Веранікі", так уразіў мяне, што я потым лічыў гэта лепшым месцам у маім рэпартажы. А жонка-біёлаг, прачытаўшы, засмяялася: "Што ты за глупства тут пішаш? Дрэвы растуць з вершаліны! І чорны пасак, і надпіс застануцца назаўсёды на той жа вышыні!"

Вось так, Багдановіч увёў у зман Вялюгіна, той — мяне. Ды цяпер не думаю, што абодва паэты проста абмыліліся — яны падпарадкоўваліся Закону паэзіі: чаго не можа стацца ў прыродзе, можа рэчаісна жыць у паэтычнай метафары. І праз шмат гадоў, гуляючы з дачкой па лесе, я падмануў і яе...

У Анатоля Вялюгіна ёсць кніжка вершаў "Насцеж". У ягоным доме дзверы заўсёды былі насцеж — ды не для ўсіх. Калі ён ужо каго ўпадабае, дык удзень ці ўночы — калі ласка! А калі... Выбачай, браце, але тут ты лішні. Мне пашанцавала, нават ягоная жонка, не заўсёды гасцінная Наталля Канстанцінаўна, паблажліва казала: "Ну праходзь ужо!" Бліжэйшыя сябры называлі паэта Адміралам. Ён сам любіў прыляпіць мянушку — Боцман, Карнет, Гармон... Ягоныя сяброўскія эпіграмы былі пякучыя, што гарчычнікі, але незлаславыя і некрыўдлівыя. Але досціпу ў іх хапала!

Нейкі час хадзіў я ў Адмірала ў ад'ютантах. Хадзілі і іншыя — перада мною і пасля мяне. У ад'ютантах, але не у дзяншчыках — сваіх улюбёнцаў Вялюгін ніколі не прыніжаў. Трымаўся з усімі за роўню — нават з тымі, за каго быў старэйшы ледзь не ўдвая.

Шкада толькі, што апошнія гады не было ў яго поплеч маладога рыцаранта-вісуса. Былыя ад'ютанты пасталелі, некаторыя парабіліся лаўрэатамі, але ніколі не забывалі свайго Адмірала, заходзілі да яго ў дом і на дачу. І ўсё ж маладога ганчака ля яго не было, шкада... Ён жа ўсё жыццё любіў валаводзіцца з маладымі — выціраў насы, ставіў на крыло, выпраўляў у дарогу. Колькі тысяч пачаткоўскіх радкоў ім выпраўлена, адгаблявана /мусіць, мільёны!/, колькі "цвікоў" загнана ў іх ягонаю боскаю рукою! Прынёс і я неяк яму ў "Полымя" вершыкі. Пачаў ён чытаць, раптам скрывіў губу:

— "У дасветнай слаце качанее..." Русізм! "Коченеет"! Качаном робішся ці што? Думай!

Паныла апускаю плечы — нічога ў галаву не йдзе. А ён раптам зайграў шэрым вокам:

— А што, калі так?! — і ўвагнаў зверху паміж маімі мляўымі "а" і "ч" сваё раскацістае "р". — Карчанее! "У дасветнай слаце карчанее". Карчом на холадзе робішся!

Я толькі выдыхнуў ад здзіўлення: што значыць боская рука!

— А тут, браце, радок стаіць ракам, — і спрактыкаваный рукой шахматыста робіць ракіроўку слоў. І радок ужо гучыць нязмушана, без высілку п'еца, як глыток вады.

Свайму сябру-паэту Антону Бялевічу, які пісаў шмат даўгавата-нуднаватых паэм, ён быў проста выратавальнікам — скароціць ледзь не ўдвая, натыкае вялюгінаўскіх пруткіх слоўцаў, глядзіш, нішто сабе паэмка атрымалася!

Шмат хто з сённяшніх знаных паэтаў, зняўшы з паліцы сваю першую кніжку, знойдзе ў канцы яе надрукаванае дробненькім петытам: "Рэдактар А.С.Вялюгін".

Неяк у рэдакцыі "Полымя", дзе Анатоль Вялюгін з 1946 года /і нідзе потым болей/ працаваў рэдактарам аддзела паэзіі, давялося прысутнічаць пры чытцы вершаў такога ж пачаткоўца як і я. Хлопец сядзеў учырванелы, раз-пораз шыркаў носам, сціраў даланёю пот з ілба, а Адмірал крэсліў алоўкам, ставіў пытальнікі, потым уздыхнуў:

— Да-а, браце...

Пачатковец, відаць, начуты пра любімае "адміральскае" слоўца, загундосіў:

— Анатоль Сцяпанавіч, я адгаблюю...

Вялюгін засмяяўся:

— Ды ўжо ж, сынку, габлюй-габлюй — бацька сякеркай паправіць!

Каб не гэтае рэдактарскае габляванне, мусіць, мог бы напісаць ён куды болей. Мог бы. Але і напісанага стае, каб постаць паэта Анатоля Вялюгіна ўзвышалася сярод шматлікай грамады нашых слынных паэтаў. Яго ведалі пісьменнікі амаль усіх рэспублік былога Саюза — як паэта, перакладчыка, дружбака.

А яшчэ ён любіў кіно. Паводле яго сцэнарыяў знята больш як трыццаць дакументальных і адна мастацкая стужка. За "Генерала Пушчу" атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР.

Недзе на пачатку 80-х па ягоным сцэнарыі "Тэлефільм" зняў двухсерыйны мастацкі фільм "Рэха ў Пушчы" — 20-я гады ў Беларусі, вайна, рэзрух, кантрабандысты, Мянжынскі, балапалякі... Адным словам, добрае, цікавае кіно. Пасля прэм'еры па ЦТ на кватэры сцэнарыста для кінагрупы быў накрыты багаты стол. Гаманілі ўсю ноч, калі пачало світаць рэжысёрка Дзіямара Ніжнікоўская папрасіла гаспадара:

— Хадземце пройдземся, я ўжо ачмурэла ад цыгарэтнага дыму.

Выйшлі. Цёплы ліпеньскі досвітак. Ні машын, ні тралейбусаў. Наўскасяк праз праспект — Купалаўскі сквер. Праходзячы ля помніка Песняру, рэжысёрка дасціпна так пытаецца:

— Анатоль, вось і вы, кажуць, паэт. А ці ведаюць вас, як Купалу?

— Ну, як вам сказаць... — пачаў надзімаць шчокі Адмірал.

— А давайце ў першага ж сустрэчнага і запытаем!



Выходзяць на праспект — ні душы. І трэба ж, як на тое, прэцца аднекуль загуляны, няголены і пакумечаны мужычок.

— Ну, гэта ж забулдыга... — хоча даць задні ход Адмірал. А рэжысёрка ўжо да забулдыгі:

— Малады чалавек, ці ведаеце вы такога паэта Анатоля Вялюгіна?

Той зладзюкавата зыркаючы па баках, раптам нахабна кажа:

— Што вы прысталі, ён жа ля вас стаіць!

— ?!! — у рэжысёркі рот дуплом. — Мо і вершы яго чыталі?

— Чытаў. Вось паслухайце! — і, разгарнуўшы плечы, добра пастаўленым голасам чытае верш Вялюгіна.

Нямая сцэна.

Потым ужо ў Маскве рэжысёрка, прыцiскаючы да грудзей рукі, расказвала ўзахлёб кіношнікам: "В Минске живет поэт Велюгин, так, представляете, останавливаем среди ночи какого-то пьянчугу, а он наизусть его стихи читает... Вот это популярность!"

Пасля таго выпадку купалаўскі акцёр Павел Дубашынскі нагою адчыняў дзверы адміральскай кватэры. Той раз у яго не знайшлося трох рублёў на таксоўку. А вершы Вялюгіна начытваў на радыё і яму дастаткова было аднаго разу, каб запомніць напамяць.

Уся гэта гісторыя — цалкам у адміральскім ключы. Ды хіба яна адна? Вось так нараджаюцца легенды.

Не ведаю ніводнага верша напамяць. А Вялюгіна ведаю. Завучыў яго, слухаючы ў адміральскай кватэры соты раз пласцінку "Мелодыі", дзе Вялюгін сам чытае свае вершы, і абліваўся п'янымі слязьмі.

У застоллі ішлі шумныя гаворкі, ніхто на мяне не зважаў, і ставіў пласцінку яшчэ раз...

Верш называецца "Партызанская школа".

Паэт Анатоль Вялюгін жыў насцеж і пісаў насцеж.

У ягоных вершах шмат гуляе вятроў — вятры, вятрыскі, буры-віхуры, ураганы. Галоўную сваю паэму ён назваў "Вецер з Волгі".

Мне і зараз у думках пра яго вусцішна цягне скразняком. Нібыта дзесьці не прычынілі юшку. Скавышы. Выдмiны. Пустэльні.

*Здаецца ж, ветрана? Ды што без ветразя!*
*Не стае Адмірала.*
*Не стае Паэта.*

**P.S.** На пытанне журналісткі: "Ці любіце вы свой народ?" ён паўтарыў: "Люблю. Але кожнага паасобку".

*Алесь ГАЎРОН*



***НА ЗДЫМКАХ:** традыцыйнае цяпельца ў Каралішчавічах, верасень 1975 г.; з мастаком Міхасём Вецікам. 1982 г.*

***Фота Яўгена КАЗЮЛІ***

Міхась ПАЗНЯКОЎ



## ВАСІЛЮ ЗУЁНКУ

Публіцыстычны, ці лірычны,
Гумарыстычны, ці эпічны,
Заўсёды верш яго — касмічны.
І Богу ён даўно сваяк,
Бо вершы ў космас
Браў зямляк.

## УЛАДЗІМІРУ КАРЫЗНУ

Не стараць Уладзіміра гады,
Душою ён зайздросна малады.
Тут таямніцы анічуць,
Разгадка гэтаму такая:
Яго тры Музы берагуць,
Паэзія — адна,
А Музыка — другая.
А трэцяя — без слоў —
Да Зорачкі любоў.

Уладзімір МАЗГО

## ВЕЧНА ЗАКАХАНЫ

**(паводле Алеся Пісьмянкова)**

Сказаў,
Ступіўшы на зямлю:
"Я не памру,
Пакуль люблю".
Мяркуючы па гэтым,
Я вечным стаў паэтам.

## СЯБРУК ПРЫРОДЫ

**(паводле Уладзіміра Марука)**

Палічыўшы зоркі ў кронах,
Напісаў я ліст... рабіне.
Зверху каркае варона:
— Др-ружа,
Закусь — у адрыне!..

## ПРА ЛІТНАЗВЫ

Ёсць у Маскве,
Скажу спярша,
Даўно
РУБЛЕЎСКАЯ шаша.
Але шукаеце
Дарма —
Там МАЙСЮКоўшчыны
Няма.

## САМОТНЫ ПЕГАС

**(аўтаэпіграма)**

І ў Марчука,
І ў Марука
Твая не выйшла кніжка.
Гаротна цягнецца рука
Да горкага кілішка.



Мо, выдаць кнігу ў Цвіркі?
Але ў кішэні — дзіркі,
А там патрэбны грошы:
Ні кашалёк,
а кошык,
Які ні для зарплаты...
Пегас —
твой конь крылаты —
Скубе самотна вершы
У веку дваццаць першым.

Марцін КОЎЗКІ





## КОЎЗАНКІ

Нідзе так не хлусяць, як у прагнозах надвор'я. З дня ў дзень, з году ў год — памыляюцца. Галоўнае, без карысці для сябе.

* * *

Нам здаецца, што ён смяецца, а ён тлумачыць, што плача. Смех скрозь слёзы — хмяльны ці цвярозы?..

* * *

Апладзіраваць можна і адной рукой, паблажліва пастукваючы па крэсле наперадзе. Ці не таму мы амаль не чуем апладысментаў тых, што сядзяць у першым радзе?

* * *

У дадатак да песні, якую спяваў камсамол: "Гараць мартэнаўскія печы... і чорны снег ляжыць вакол".





Валянцін ЛУКША

## КРЫЎДА ПУТАНЫ

Сапраўды,
Я з законам не ў згодзе,
Ды прысуд
Абвяргаю іначй, —
Як магу я быць
Лёгкіх паводзін,
Калі важу
Пад тузін пудоў?

Анатоль ЗЭКАЎ



## ЁСЦЬ АБО НЯМА

У яме талент не схаваеш —
Сказаць пра гэта
варта прама:
Калі ён ёсць —
не закапаеш,
Калі няма —
не трэба й яма.

## ПАРОДЫ

Ігнат СЦІЗОРЫК

## БЯЗДОННАЕ ДНО

**Азірнуся вакол, азірнуся**
**Сэрцам, што не мае ўжо даўно,**
**Бо яно дарагой Беларусі**
**Дно, якому дна не відно...**

***Алег Лойка***

Не Сенека я і не Цэзар,
ды заўважыў
даўным-даўно:
як напоўніш вінам
творчы цэбар,
дык адно толькі дно
ў ім відно.

Пратаптаў я сцяжыначку
ў вечнасць,
дасягнуць жа не змог
бальшака...
Падаіў
ні адно выдавецтва,
малака ж узяў —
рыхтык з быка...

Азірнуўся вакол я,
цвярозы
ад бязвіннага,
бачце, віна, —
як жа многа бяроз
ля Бярозы!
Толькі Слонім яшчэ —
без слана...

Міхась МІРАНОВІЧ

## НЕ ДАМО Ў КРЫЎДУ!

З даўніны
Так цягнецца само,
І вы лепш
Не звязвайцеся з намі —
Мы сваіх
У крыўду не дамо!
Мы сваіх
У стане крыўдзіць самі!..

## ВЯСКОВАЯ ІДЫЛІЯ

Стыне боршч
На пліце...
Некранутая
Пража...
Баба
Плёткі пляце,
А дзед —
Лыка не вяжа...

## ЧЫМ БОЛЕЙ ЛЮБІМ

На тое маючы
Прычыну,
Перараблю
Радкі паэта:
Чым болей любім мы
Жанчыну —
Тым меней жонка
Любіць гэта.



Малюнкі П. КАРПОВІЧА і А. ГУРСКАГА

# ІГНАТ ДУБРОЎСКІ



**На 98-ым годзе жыцця памёр адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Ігнат Дуброўскі (Ігнат Цімафеевіч Чарняўскі).**

**Нарадзіўся Ігнат Дуброўскі 4 верасня 1906 года ў вёсцы Дуброва Смалявіцкага раёна. Быў вядомы не толькі ў пісьменніцкіх колах — доўгі час працаваў у Інстытуце эканомікі Акадэміі навук, загадваў сектарам аграрных праблем.**

**Першыя вершы надрукаваў у 1927 годзе. Пасля некаторага перапынку да літаратурнай працы вярнуўся пасля вайны. Пісаў прозу, нарысы і публіцыстычныя артыкулы аб жыцці і развіцці беларускай вёскі, многія з якіх першымі друкаваліся ў газеце "Літаратура і мастацтва".**

**Ігнат Дуброўскі — аўтар зборнікаў апавяданняў "Радня", "Паўз самыя вокны", аповесцей "Зямля маладзее", "Зямныя вузлы", кніг нарысаў. Заслужаны работнік культуры БССР (1981).**

**Да апошніх дзён жыцця Ігнат Цімафеевіч займаўся творчасцю, сачыў за тым, што адбываецца ў літаратурным працэсе нашай краіны.**

**Светлая памяць пра Ігната Дуброўскага застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў і чытаў творы пісьменніка.**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва", штотыднёвік "ЛіМ", Саюз беларускіх пісьменнікаў**

Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэтэсе Таісіі МЕЛЬЧАНКА з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці мужа.

**СУСТРЭЧЫ**

## ПРАБЛЕМЫ "ТУТЭЙШАСЦІ" СЁННЯ

**Творчасць Купалы з цягам часу не губляе сваю актуальнасць. П'еса "Тутэйшыя", напісаная ў 1922 г. застаецца актуальнай і па сённяшні дзень. З гэтай нагоды музей Янкі Купалы наладзіў імпрэзу «Праблемы «тутэйшасці» сёння» сумесна з Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы. Мерапрыемства адбылося ў СШ №19 г. Мінска, якая носіць імя Я. Купалы.**

**З уступным словам выступіла дырэктар Валянціна Александровіч.**

**Вядучая мерапрыемства, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, Іна Шапкова распавяла пра пакутлівы сцэнічны лёс п'есы, зачытала ўрывак з вучнёўскага сачынення на тэму "Тутэйшасць" як нацыянальная трагедыя беларусаў", наладзіла жывое абмеркаванне сярод вучняў праблемы "тутэйшасці".**

**Дырэктар музея Янкі Купалы Сяргей Вечар акрэсліў значнасць асобы паэта, выказаў сваё бачанне праблемы "тутэйшасці" сёння ў нашым грамадстве.**

**Вучні драматычнага гуртка "Свет рампы" пад кіраўніцтвам Андрэя Жураўскага падрыхтавалі інсцэніроўку з трагікамедыі.**

**Загадчыца навукова-асветніцкага аддзела музея Людміла Давідоўская распавяла пра незабыўную паездку ў філіял музея "Акопы", якая адбылася восенню гэтага года.**

**Адметным было выступленне заслужанага артыста Беларусі, акцёра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Віктара Манаева. Ён расказаў пра сваю ролю Мікіты Зноска ў спектаклі "Тутэйшыя", пра надзённасць і значнасць пастаноўкі, выказаў свае словы ўдзячнасці юным артыстам. Незвычайна было бачыць урывак са спектакля ў выкананні прафесійнага акцёра на школьнай сцэне. Вучні доўга не хацелі развітвацца з любімым акцёрам, задавалі мноства пытанняў Віктару Манаеву.**

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ**

# • НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ •

# ЗЛОЕ ВОКА — ЗЛОЕ СЭРЦА...

**(Працяг. Пачатак у № 50)**

**2**

Пасля вайны, напісаўшы раманы, скончыўшы партшколу, прачытаўшы гару матэрыялістычнай літаратуры, я стаў такім атэістам, што не верыў ні ў якія магічныя сілы, у "дурное вока" Гапкі не верыў — забабонная легенда краўцоўскіх баб, з малітваў Кошалева, якія хвалявалі там, у Мурманску, перад палётамі пасміхаўся. (Між іншым, Рыгор Кошалеў вярнуўся з франтавога зенітнага палка і пісаў мне, робячы ў калгасе шаферам, асвоіў прафесію яшчэ ў войску, вадзіў "студабекер", які цягаў 100-міліметровую "амерыканку".) Я не верыў ні ў святых, ні ў злыя вочы, чорныя душы. А жонка мая, Марыя, верыла. Спрачалася са мной.

— Ты ні ва што не верыш. Хама Няверуючы.

— Я ў партыю веру і ў перамогу сацыялізму...

Выйшла, дарэмна верыў.

А пасівелы, раптам паверыў і ў дурное вока.

Студзень 1981 года. Паўгода ўжо сяджу ў новым крэсле — галоўнага рэдактара Беларускай савецкай энцыклапедыі, пасля яе арганізатара і першага рэдактара Пятруся Броўкі. Цяжка я прымаў прапанову заняць гэтую пасаду. Маша і Андрэй націснулі:

— Ідзі. Канкрэтная і пачэсная праца. Колькі можна сядзець у саюзе!

— Я не сяджу. Я кірую...

— Дваццаць шэсць гадоў кіруеш. І што? На чарговым з'ездзе агітну, каб "пракацілі" цябе. Ды і без маёй агітацыі пракоцяць. Пачухаешся тады. Броўка колькі перажыў, атрымаўшы без малога сотню чорных шароў, — Андрэй умеў агітаваць.

І вось сяджу. Чытаю нудныя артыкулы. У першыя месяцы чытаў столькі, што тупеў; няздольны быў уначы пісаць раманы. А без творчасці жыццё — не жыццё. Напісаў просьбу ў ЦК аб адстаўцы, месяц насіў у кішэні. Ажно пакуль мой добры і нязменны першы намеснік Іосіф Хаўратовіч, сапраўдны энцыклапедыст, не сказаў:

— А навошта вам усё чытаць? Вы што біёлаг, батанік, хімік, тэхнік, аграном? Вы чытайце спрэчныя артыкулы. Для нас важней ваша арганізацыйная праца.

А гэта я ўмеў, навучыўся ў Саюзе пісьменнікаў — выбіваць, прабіваць, а начальнікам нада мной — старшынёй камітэта па друку — наш з Андрэем даўні, па партшколе яшчэ, сябра — дабрэйшы і мудрэйшы Міхаіл Іванавіч Дзялец. Вечная памяць яму! У яго — грошы, папера, друкарскія ліміты. З ім дамаўляўся.

Праўда, калі пайшлі энцыклапедыі "Літаратура і мастацтва", "Янка Купала", чытаць давялося нямала і шышкі набіваць: білі зверху і знізу — ішла ж перабудова і шмат хто рабіў круты паварот, у калектыве нашым утварылася група ваяўнічых "перабудоўшчыкаў". Помню, які сыр-бор разгарэўся з-за артыкула пра Марка Шагала. Мяккацелы ліберал, я паддаўся на "высокія ідэі" былога загадчыка аддзела ЦК, другога майго намесніка, драматурга Алеся Петрашкевіча. Падставіў ён мяне. А пасля ён "перабудаваўся"! Але ўсе баталіі пазней — у другой палове 80-х. А ў студзені першага года — "тишь и благодать" і цвёрдая ўпэўненасць у непарушнасць нашага жыцця.

На дварэ мароз. У кабінеце цёпла. Сяджу. Абдумваю чарговы сюжэтны ход гістарычнага рамана — пра Брэсцкі мір.

Уваходзіць Іосіф.

— Па чарцы зробім пасля працы? — грэшныя, рабілі неаднойчы.

— Пісаць хочацца.

— Адпачніце! Столькі напісалі...

Размову перапыняе званок "вяртушкі".

Памочнік першага сакратара ЦК Віктар Крукаў:

— Вас просіць Ціхан Якаўлевіч.

— Калі?

— Як можна хутчэй? Машына ёсць?

— Ёсць.

(Пасля трагічнай смерці Пятра Машэрава на пасаду першага вярнулі з Масквы Кісялёва, былога Старшыню Саўміна.) Палохаюся не толькі я, але і Хаўратовіч. Якую ж ляпу дапусцілі, калі адразу, міма аддзела, міма Кузьміна, да першага?

Лячу. У неастылай (грэў шафёр) машыне калоціць. Як будзе сапсаваны мой юбілей, калі прапусцілі штосьці такое, што абурыла Кісялёва. Але прыветлівасць, з якой сустракае мяне Крукаў, супакойвае. Па ўнутранай сувязі памочнік дакладвае, што Шамякін тут.

— Няхай заходзіць.

І — о, дзіва! — Ціхан Якаўлевіч ідзе мне насустрач і... абдымае.

— Віншую. Віншую.

— Дзень майго нараджэння — 30, — нясмела нагадваю я.

— Ёсць прычына павіншаваць цябе загадзя.

Бярэ са свайго рабочага стала паперу, перадае мне. Пастанова Палітбюро аб прысуджэнні мне звання Героя Сацыялістычнай Працы. Падпісаў сам Брэжнеў.

Не ведаў, не чакаў. Меў тры ордэны Працоўнага Чырвонага сцяга. Таемна разлічваў на "Дружбу народаў". І раптам — найвышэйшая! Захлынуўся ад шчасця.

Ціхан Якаўлевіч пільна і пранікліва сачыў за маёй рэакцыяй. Мабыць, цешыўся маёй ашаломленасцю. Здаецца, я не адразу здагадаўся падзякаваць яму, ведаў жа, як вырашаюцца, як "ідуць" такія ўзнагароды. З паўгадзіны гутарылі на тэмы, далёкія ад майго юбілея. Не, блізкія — пра літаратуру. Ён бадай адзіны з першых сакратароў ЦК, які чытаў нашы раманы, у гэтым я пераканаўся, калі Ціхан быў яшчэ загадчыкам аддзела ЦК, сакратаром Брэсцкага абкама (выступалі ў Брэсце, і ён прыняў нас, маладых), старшынёй Савета міністраў.

Юбілейны вечар — у тэатры Купалы. Там жа галоўны нумар — уручэнне Зоркі Героя. Больш за мяне хвалявалася Маша: як яно будзе? Такая падзея!

Але раніцай 30 студзеня мяне выклікаў Старшыня Прэзідыўма Вярхоўнага Савета Іван Палякоў і пры малой колькасці сведкаў уручыў мне ўзнагароду. Растлумачыў: у Белавежу прыехаў зацяты паляўнічы Кадар, і яны, першыя асобы, мусяць зараз жа ехаць туды — на сустрэчу з кіраўніком брацкай дзяржавы. Пратакол!

На вечары прысутнічалі другія па рангу персоны — Кузьмін, Лабанок, Клімаў. Некаторыя пісьменнікі здзівіліся, калі я з'явіўся ў прэзідыум з Зоркай на грудзях. Але адсутнасць першых не пашкодзіла ўрачыстасці. Мяне зацалавалі.

На другі дзень, якраз нерабочы — субота ці нядзеля, я даваў юбілейны абед. Сціплы — так параіў Андрэй. У Доме літаратараў, да будаўніцтва якога я, першы сакратар СП, прылажыў нямала намаганняў, сваёй прабіўной сілы. У Андрэя была тэорыя: менш запросіш — менш будзе пакрыўджаных. Але як абмяжуеш у такое свята? Чалавек семдзесят запрасіў: з апарата Саюза амаль усіх, выдаўцоў, рэдактараў часопісаў, энцыклапедыстаў, некаторых блізкіх чыноўнікаў — з ЦК, гарсавета, камітэта.

Мы з Машай прыйшлі гадзіны за паўтары да пачатку абеда. І былі горка ашаломлены: стол не накрыты. А калі я кіраваў, якія яны, супрацоўнікі кафэ, былі добрыя, паслужлівыя.

Маша ледзь не плакала, узяўшыся за працу. Але я ведаў: яна афіцыянтак не падгоніць — залішне далікатная. Трэба Ядвіга Паўлаўна! Я пазваніў Івану Навуменку, сябру майму. Не яму — Ядвізе расказаў сітуацыю. Яна з'явілася мінут праз дваццаць. І пад яе камандай закруціліся "сабатажніцы". Праўда, я паабяцаў добрыя "чаявыя". Да назначанага часу ўсё было гатова — "як у лепшых рэстаранах Парыжа".

Абед прайшоў нармальна. Былі дзесяткі тостаў, сур'ёзных і жартаўлівых, даўгіх і кароткіх. Усе падыходзілі чокнуцца з юбілярам, некаторыя цалаваліся, чаго мы з Машай баяліся — грыпозны час, прынясём малым унукам грып.

Тамадзіў Андрэй Макаёнак. Мабілізаваў увесь свой гумар. Але рэакцыя на яго жарты не падабалася мне. Увогуле адчуванне маё было зусім не святочнае, часам узнікала прадчуванне чагосьці нядобрага. Напружаная была Маша. Я шчыпаў яе за кофту, шаптаў:

— Чаму ты такая?

— Якая?

— Сядзіш як на хаўтурах. Глядзі на маю зорку. І радуйся.

Зорку многія мацалі, паварочвалі, чыталі нумар: невялікі — на ўвесь Саюз.

Госці праявілі інтэлігентнасць — ніхто не напіўся, хоць сядзелі добрыя пітакі. І не засядзеліся, мне нават крыўдна стала, што так хутка разышліся, Іван Антановіч прыклад падаў.

Сям'я наша пакідала кафэ апошняй — пакуль разлічыліся з прыслугай. Моладзь мая — Саша, Слава, Таццяны, дачка і нявестка, нешта з дарагіх напіткаў захапілі дадому.

Распрануліся ў малым гардэробе службовага ўваходу. Я, маючы шафу ў кабінеце, ніколі там не распранаўся. І не ведаў "лавушак". А яны былі. Апранаючы дублёнку, я зачапіўся за незаўважаны ў цёмным фае парожак, упаў і... зламаў руку, правую, рабочую. Боль нясцерпны. Не дачакаліся "хуткую", доўга шукалі па тэлефоне траўматалагічны пункт. Чакалі таксі. Сын мой злавіў "левака". Дабраліся да траўматалогіі. Рэнтген. Закрыты пералом кісці. "Не самы страшны", — супакойвалі ўрачы. Але боль не праходзіў і пасля ўколаў. Руку замуравалі ў гіпс.

Вось табе і юбілей!

— А ты не верыў, што няма "дурнога вока", — сказала Маша.

Паверыў. Ведаў, што запрасіў нямала нядобразычліўцаў, зайздроснікаў. Любіў сваіх калег, але гэтую іх рысу — зайздрасць — добра ўведаў раней. Калі я пайшоў з саюза, адзін сачыніцель, які лічыў сябе самым-самым высокім, агучыў:

— Я шамякінскі дух выветру.

Выветрыў? Не ведаю. Што сам хутка "выветрыўся" — факт.

Ды бяда не ходзіць адна, як кажуць у народзе. Праз дзевяць дзён трагічна загінула мая родная сястра Галя: ехала на веласіпедзе на працу ў ваенны гарадок, дзе рабіла планавіком, і перад самай прахадной з сасны ўпаў тоўсты сук ёй на галаву. Як не паехаць на пахаванне. Рваўся, але Маша не пусціла:

— Куды з такой рукой! Больш нагоніш сумоты ўсім блізкім.

Паехала сама з Сашам. Не перадаць словамі, як я перажыў трагічныя дні. Не еў, не спаў. Разам са мной плакалі дзеці. Рука мая моцна разбалелася, штодня рабілі ўколы, толькі пасля ўкола мог паспаць трохі.

Вярнуліся Маша і Саша, пачарнелыя ад слёз, ад марознага ветру. Расповяд іх рваў мне сэрца. А потым новая прыгода, не трагічная, але сна пазбаўляла. Я — выбраны дэлегатам XXVI з'езда КПСС. Званю загадчыку аргаддзела ЦК Якушаву, што паехаць на з'езд не магу — рука ў гіпсе. Іван Фёдаравіч у роспачы, крычыць у трубку:

— Ды вы што, змовіліся? Трэці, — яшчэ нехта хварэў. — Ды мяне з работы выганяць.

— Я штаны не магу зашпіліць. Як я буду сядзець там?

Не паверыў, ці што? Пад вечар з'явіўся да мяне на кватэру. Агледзеў, звярнуўся да Машы:

— Вы можаце паехаць?

— Аднаго не адпушчу. Як ён без мяне? Паесці левай рукой не здолее.

І Якушаў выносіць вердыкт:

— Можаце ехаць! А штаны мы вам пашыем — без папругі, на рызінцы і на "маланцы".

На другі дзень, калі я яшчэ спаў, з'явілася Ляхман, закройшчык атэлье Савета Міністраў. Мераў, уздыхаў, цмокаў языком:

— І так ета трэба ехаць у такіх штанах? Без вас не правядуць той з'езд?

**Іван ШАМЯКІН**

Біў мудры яўрэй, як кажуць, пад дых. Я чырванеў. Думаў: ад Якушава, ад самога Кісялёва мог бы "адхрысціцца". Але смакталі два пачуцці: удзячнасць за высокую ўзнагароду і самалюбнае жаданне выкарыстаць яшчэ адну ўзнагароду, узвысіцца, аздобіць біяграфію дадатковым радком: з'яўляўся дэлегатам XXVI з'езда КПСС. (Між іншым, я быў дэлегатам і наступнага XXVII з'езда, гарбачоўскага, калі ў рэстаране дэлегатам не давалі нават піва — ішла барацьба з п'янствам, якая развалiла эканоміку). Якушаў пасяліў нас з Машай у гатэлі "Масква" ў двухпакаёвым "люксе" побач са сваім "штабам": удзень сядзелі там дзяжурныя, машыністка, уначы спаў адзін ён, адказны за ўсю дэлегацыю, а было нас з Беларусі чалавек семдзесят — рота. А ўсіх дэлегатаў — пяць з паловай тысяч: умяшчальны Палац з'ездаў збудаваў Мікіта Хрушчоў. Але нягледзячы на прысутнасць Машы, на ўвесь камфорт, на адмысловыя штаны, напакутаваўся я на тым з'ездзе. Па-першае, літаральна галадаў: баяўся лішняе з'есці, выпіць. Глытаў слінкі, гледзячы, як раскавана, вольна вячэраюць іншыя дэлегаты, асабліва сібіракі, каўказцы, украінцы добра закладвалі. Па-другое, рука балела. Кожную раніцу заходзіў у медпункт, і мне рабілі ўкол. Пасля ўкола хацелася спаць. А наша дэлегацыя сядзела на першых радах цэнтральнага сектара, я ў чацвёртым радзе — перад самай трыбунай, паміж добрых сяброў — Мікалаем Барысевічам і Глебам Крыуліным. Прасіў іх:

— Калі засну — вы мяне шчыпайце.

Не шчыпалі, але лёгка штурхалі то адзін то другі. Дакладчыка, Леаніда Брэжнева, я амаль не чуў — змест даклада. Але хутка зразумеў, што на трыбуне бадай такі ж пакутнік, як я. І сон мой знік. Я пачаў назіраць за ім, са страхам і нядобрай цікавасцю чакаючы, калі Генсеку зробіцца блага. А яму ўжо праз паўгадзіны стала кепска. Пабляеў, раз-пораз выціраў хусцінай успацелы лоб; праз кожныя пяць хвілін прыслужнік-мужчына прыносіў яму белы, як малако, напой — кіслародны кактэйль, растлумачыў мне Барысевіч.

Шэсць тысяч пар вачэй глядзелі на дакладчыка. Не сумняваўся, цяпер ужо не сумняваўся: ёсць сярод іх злыя вочы. Не ўсіх ён абагрэў. У мяне на абедзе было 70 чалавек. Колькі з іх мелі злое сэрца, злыя вочы? А тут... уявіць цяжка. Вось-вось упадзе чалавек — за трыбунай. А даклад жа, казалі, на чатыры гадзіны. Жах!

Выцер Леанід Ільіч лоб у чарговы раз і павярнуўся да прэзідыума. І тыя, што глядзелі яму ў спіну, нарэшце сцямілі, што патрэбна дакладчыку. Чарненка абвясціў перапынак. Цягнуўся ён доўга — з гадзіну. Амаль усе былі ўпэўнены, што даклад працягне хтосьці з іншых членаў Палітбюро. Варажылі — хто? Высокая палітыка!

Празвінелі званкі. Запоўнілася зала. І — во дзіва! — выходзіць з-за кулісы Брэжнеў, бадзёры ў хадзе, з усмешкай на твары. І даклад пачаў чытаць зусім іншым голасам. І пот не выціраў. Дачытаў да запланаванага перапынку. А пасля яго чытаў яшчэ больш бадзёра. Хто яго ратаваў ад злых вачэй? Зрабілася ніякавата, што я, атэіст, паверыў у іх. Дурное вока! Ха!

Аднак хто даў сілы Брэжневу? Ці што? Тэрапеўт? Укол? Ці псіхіятр, чараўнік, тыбецкі маг, Джуна? У Генсека ўсе маглі быць. Усе лекары і ўсе сродкі.

Аднак ніякія лекары жыцця яму не прадоўжылі: праз паўтары гады чалавек раніцою не прачнуўся.

Нядаўна я прачытаў успаміны памочніка Брэжнева, які быў побач з ім дваццаць пяць гадоў. Мы, грэшныя, думалі, што правадыр наш любіць узяць на губу. Памочнік піша: не! Выпіваў ён вельмі мала. Але мудрыя "лекары" зрабілі яго наркаманам: глытаў па тры-чатыры таблеткі снатворнага.

І я без снатворнага не магу заснуць. Хвароба старасці. А якая каша варыцца ў галаве ў бяссонніцу! Каб іх усе запісаць, начныя ўспаміны, — колькі тамоў набралася б! Дзякуйце, чытачы, што я не стаў пісаць уначы! Хоць чытачам няма чаго баяцца: яны перасталі чытаць — ёсць тэлевізар. Ды нарэшце ў наш час не так проста выдаць адну невялікую кніжку, мастацкую. А ўспаміны... калі іх выдадуць? І справа не ў "злых вачах". Страцілі сілу самыя добрыя сэрцы, разумныя галовы. Вярні, Божа, нашу моц, нашу дабрыню, еднасць, не дзялі на класы, партыі, групы! Няхай ва ўсіх нас будуць добрыя сэрцы, добрыя вочы!

# СПАТКАННІ З АДАМАМ МІЦКЕВІЧАМ

*Ноч з 24 на 25.12.*

Вось і стрэліся мы, любы Адаме, у перадкалядную ноч. Я — на Зямлі, Вы — на Небе. Гэтае "Вы" стаіць між намі, як мяжа, і я адчуваю сябе школьніцай, закаханай у свайго Настаўніка і пакутую ад свайго Кахання і шчаслівая ім.

На Гаштольдавай гары ў Койданаве стаіць Кальвінскі Збор. У першай палове XVII ст. намаганнямі слаўнага князя Мікалая Радзівіла Рудога, роднага брата Барбары Радзівіл, ён узняўся. Вось там, любы Адаме, мы і будзем сустракацца з Вамі. Там наша агульная спадчына, як цяжкая, прыліплая да чаравікоў гліна, засталася. І носім мы на сабе гэтыя гліняныя гіры, баючыся атрэсці цяжар, бо ён ка дзедаў. Прынясе туды, у Кальвінскі Збор, Біблію Мікалай Радзівіл Чорны, стрыечны брат Барбары. А Біблія тая па-польску, і я яе не расчытаю. Дый Вашых словаў я не зразумела б, але, дзякаваць Богу, Вы — ліцвін, і я — ліцвінка, і мы разумеем адно аднаго душой.

*Суткі. 26—27.12*

— Начавала?

— Угу.

— Надта ж дрэнную работу ты сабе выбрала. Адна, як воўк. І не баішся?

— Не.

Гэты дзядзька з мутнымі вачыма, што прыцёгся раніцай у школу, — мо які сталяр быў: цёмны, шэры, бы згаданы ім воўк. Але слова "воўк" ён вымаўляў зусім па-нашаму, зрэшты, як і ўсе словы. Пэўна, ад таго я адчула ў сваім сэрцы востры жаль да гэтага шэрага ваўка — майго Брата. А яму адкуль ведаць, што я з начных дзяжурстваў у школе выходжу прасветленая, як іншыя вернікі з царквы пасля ўсяночнай.

*Каляды. Посная Куцця.*

*Не піша пісьмаў Арганістка.*

О, гэта нешта такое знаёмае, роднае, стыхійнае, як Міцкевічавы "Дзяды".

А Куццю мы сустракалі па-ліцвінску, так, як рабілася гэта некалі ў маёй роднай вёсцы Востраў. Усе драбніцы я выпытала ў маёй Бабулі Зоні. У Святы вечар уся сям'я збіралася за стол, дзе гатавалася мо якіх сорак страваў. Мужчыны кроілі аплаткі, ці Каляду. Выразалі з іх кругі і доўгія пасачкі, якія, намачыўшы ў малацэ, устаўлялі між кругамі. За нітачку вешалі над сталом. Вось такое паганскае сонца вісела ў хрысціянскай хаце, як неўміручая душа нашага народа. Гэтую важную справу — кроіць сонца з Каляды — я даручыла свайму сыну Міколку. Прыбегла і дачка Вераніка яму памагаць. А якды без яе? Яны разам спаўзалі ўсе куточкі ў хаце, выграбаючы гадавое павуціннe. Назаўтра я, прыйшоўшы з дзяжурства, выклала ўчарашнюю куццю на рэшата, абвязанае матузком. Такую куццю трэба есці ўсім сямейнікам, каб не разыходзілася сям'я. Ад дзядоў Матусевічаў з Вострава (гэта па бацьку) у мяне засталася толькі памяць, звычкі, традыцыя; ад дзядоў Матусевічаў са Сверынава (гэта па маме) у мяне засталіся толькі рэчы. Штогод на Каляды бабчыным даматканым абрусам засцілаю стол. На бабчын ручнік з вышытымі чырвонымі ніткамі крыптонімамі "А. М." (Адальфіна Матусевіч) кладу сена, а на сена — пасную куццю з панцака. І, дзякаваць Богу, што жывыя яшчэ мае бацькі, з гумна якіх я магу ўзяць гэтае сена. А што важней: памяць рэчы, душа ці матэрыя — няхай кожны адкажа на гэтае пытанне сам. Бо ўрэшце, колькі каму дадзена, столькі з таго і вымагаецца.

А што ж наш Кальвінскі Збор? Ён аказаўся нетрывалым, як і ўся матэрыя. Напачатку тыя пабудовы былі і як храм, і як школа, і як асветны цэнтр, і як кнігасховішча, і як крэпасць. Ці праўда, ці не, але старыя койданаўцы кажуць, што быў яшчэ да вайны падземны пераход з Кальвіншчыны аж да Рубяжэвічаў (гэта км з 20), куды набожныя бабкі хадзілі да касцёла. Пераход той асвятляўся і вентыляваўся. Ці хадзіла я па той Гаштольдавай гары, ці бачыла тыя равы ды валы замка — не памятаю... Мо і не ступала там мая нага, бо не адгукаецца родным болем у душы тая мясціна, скажам, як адгукаецца Востраў.

— О, да нас усе ішлі адусюль, бо ў хаце музыка была, і ўсе спявалі, — прыпомніць Бабуля Зоня даўнейшае жыццё ў Востраве, калі мы з Веранікай паехалі да Яе ў адведкі на Каляды.

— А якая ў Вас музыка была?

— Усякая. І мандаліна, і скрыпка, і гармонік.

— А якія Вы песні спявалі?

— Усякія. І калядныя, і вельканоцныя.

Бабка Зоня змагла дажыць у гэтым вар'яцкім свеце аж да 88 гадоў, ясны розум і ясную памяць толькі таму, што, дзякуючы галыцьбе ды нястачы, напоўніцу мабілізавала свае ўнутраныя рэсурсы, так як гэта рабілі індыйскія Ёгі.

Нашы бацькі і дзяды былі папраўдзе мудрыя, што не называлі падзел святаў на праваслаўныя ды каталіцкія, а называлі рускімі ды польскімі, бо Хрыстос-Заканадаўца не быў ні праваслаўным, ні католікам. Ён быў Усіхным і Першым. Таму і Каляды, якія святкуюцца першымі, будуць хутка ўжо — верыцца мне — усіхнімі, нашымі.

Вось так, любы мой Адаме, не сумняваюся, верыш і ты ў гэта там, на небе. Бо ты ж і нарадзіўся пад Каляды, у самым канцы года. І сябраваў не толькі з католікамі, але і праваслаўнымі. А яшчэ, у наступным годзе, як вера, што ў будучым так станецца заўсёды, супадуць два Вялікадні — каталіцкі і праваслаўны. Дык жа з Калядамі вас!

Ганна МАТУСЕВІЧ

Адам МІЦКЕВІЧ

## Перад бурай, снягамі

*Пералётныя птахі прад бурай, снягамі*
*Пакідаюць радзіму з тужліваю песняй.*
*Не віні іх! Яны паляцяць парой веснай*
*У напрамку зваротным –*
*сваімі шляхамі.*

*Голас іх ты пачуеш –*
*выгнанца успомні!*
*Колькі раз пасля буры*
*засвеціць надзея,*
*Столькі раз яго дух*
*да цябе зноў на поўнач*
*Прыляціць, акрылёны,*
*не збочыць нідзе ён.*

**6 красавіка 1829 г.**

## Сон

*Хоць і пакінеш мяне вельмі хутка,*
*Але, шануючы наша каханне,*
*І на мяжы непазбежнага смутку*
*Ты не кажы мне пра наша расстанне.*

*Вечар пяшчоты*
*прад сумным світаннем,*
*Ён прамільгне, як мільгае мінута.*
*А як надыдзе пара развітання,*
*Некалькі кропелек дай мне атруты.*

*Ды не хачу свае змежыць павекі*
*Перад аблічам глыбокае ночы –*
*Хай ў асалодзе замру я навекі,*
*Вусны цалуючы і твае вочы.*

*Дзён ці гадоў пройдзе мала ці многа,*
*Ды абуджэнню сусветнаму збыцца.*
*Ты ўспомніш вернага друга зямнога –*
*Сыдзеш з нябёсаў,*
*каб мог я збудзіцца.*

*Зноў прыхінуся да белага ўлоння.*
*Наша каханне нішто не азмрочыць.*
*І думаць буду: правеў я імгненне,*
*Вусны цалуючы і твае вочы.*

**1825, Адэса**

## Да Нёмана

*Нёман родны ты мой,*
*запаветны, дзе воды,*
*Што калісь я ў дзіцячыя чэрпаў*
*далоні,*
*А пасля заплываў з імі ў дзікія тоні –*
*Неспакойнаму сэрцу шукаў*
*прахалоды?!*

*Тут Лаура глядзелася*
*ў люстра прыроды,*
*Валасы заплятала,*
*уквечвала скроні;*
*Мілы вобраз яе*
*ў тваім срэбным улонні*
*Скаланаў я слязой захаплення й лагоды.*

*Запаветны мой Нёман,*
*крыніцы дзе тыя,*
*З імі шчасце, надзеі,*
*прывятлівасць лёсу?*
*Дзе маленства лятункі*
*і цуды-дзівосы?*

*Дзе юнацтва бурлівага*
*б дні залатыя?*
*Дзе Лаура мая? Дзе сябры дарагія?*
*Усё прайшло,*
*а чаму ж не прайшлі мае слёзы?*

**Пераклад з польскай Васіля ЖУКОВІЧА**



## Васіль РОЗАНАЎ:



*"..."дарагі кошт за кнігі прызначаецe". Але гэта наўмысна: кніжка — не дзеўка, што ходзіць па руках, не распуста, не пойла, якое заманьвае "заняпалага чалавека". Не дзева з цырка, што спакушае безгустоўнасцю.*

*Кніжку трэба шанаваць: і першы знак гэтага — гатоўнасць дорага заплаціць."*




***"Валошкі ў жыцце"* (вершы сяброў літаратурнага аб'яднання "ГОЛАС" пры рэдакцыі раённай газеты "Да новых перамог", Клецк, 2003г., 1000 экз., складальнікі Л.Мялешка і Т.Калейнік).**

Усё скардзімся ў сваіх вузкіх літаратурных колах пра зніжэнне цікавасці да мастацкіх твораў, пра падзенне тыражоў беларускамоўных выданняў, пра заняпад культуры ўвогуле...

Як ні дзіўна, застаўшыся нарэшце сам-насам у сваёй краіне са сваім нацыянальным клопатам, мы сталі ўсё больш разрозненымі і аддаленымі ад галоўнай нацыянальнай ідэі — захавання адзінства ў разрэджанай беларускамоўнай прасторы нашай дзяржавы... Адныя прагнуць грантаў, другія — гарантаў, трэція — змагарнай славы, астатнія — спакою і дабрабыту... **Мяккі знак** беларускай нацыі — вось выніковая заваёва і галоўная адмета затухаючай на вачах нацыянал-адраджэнскай ідэі...

Амінь?..

Не думаю. Тым больш не думаюць пра **тое беларусы** не заангажаваныя барацьбой за **беларушчыну**, аднак, штодня рупліва дбаючыя пра **Яе** спаконвечнае жыццё...

І такіх, дзякаваць Богу, яшчэ дастаткова, *"каб не ўмёрлі"*.

У тым ліку маю на ўвазе і прызабытыя намі ў нашым "высакамерным" сталічным жыцці перыферыйныя літаратурныя аб'яднанні. А іх даволі шмат, ледзь не ў кожным рэгіёне пры раённых газетах, пры шматтыражках на буйных прадпрыемствах і ў навучальных установах...

Ёсць такое і ў Клецку. Каля дваццаці чалавек жывуць там, працуюць і займаюцца літаратурнай творчасцю. *"Валошкі ў жыцце"* — не першы зборнік сяброў гэтага літаб'яднання. Некаторыя з іх з"яўляюцца актыўнымі аўтарамі рэспубліканскага друку. Скажам, такія сярод іх як Лілія Мялешка і Таццяна Цвірка ўжо дастаткова вядомыя на малой бацькаўшчыне і вопытныя паэты. Да іх "падцягваюцца" і астатнія (Віктар Худавец, Вера Кавалеўская, Вікторыя Калейнік, Святлана Стромская, Галіна Нупрэйчык, Людміла Завея, Марыя Пабудзей, Альдонія Наўчанкова...). Разняволеная і палемічная атмасфера ў суполцы, найперш дзякуючы кіраўніку літаб'яднання Л.Мялешка, стасуецца з цёплымі і таварыскімі адносінамі гэтых людзей у прыватным і грамадскім жыцці. І, думаецца, у некаторых з іх наперадзе — свае ўласныя зборнікі вершаў...

Асабліва тое было б справядлівым у дачыненні Л.Мялешкі і Т.Цвіркі. Працытую, каб не быць галаслоўным, колькі радкоў з іх лепшых вершаў. Вось афарыстычнае пісьмо Ліліі Мялешкі:

*Старэнне — дзяцінства запозненае,*
*Жыццё — гэта смерці прычына,*
*Узрост — самы верны мужчына,*
*А смерць — то каханка апошняя.*

А гэтыя радкі Таццяны Цвіркі як бы вяртаюць нас да пачатку размовы:

*"Чаму я мову гэтую абрала?*
*У творчы свет з яе пляту вянок.*
*Яе ўслаўлялі Колас і Купала,*
*на ёй гаворыць чыста мой сынок!"*

Не, не ўсё яшчэ згублена. Не трэба толькі *губляцца* самім і ўсё **наша** будзе *знаходзіцца*...

Люблю і паважаю Анатоля Вярцінскага. І як паэта, і як чалавека. Ёсць нейкія флюіды, што не даюць нам забывацца адзін на аднаго. Магчыма, у нас блізкія ўяўленні пра гэты свет і жыццё ў ім. Можа, яшчэ што... Адным словам, ёсць такая прыхільнасць. У мяне, прынамсі.

Анатоль Вярцінскі, бадай, адзіны наш творца, які ўзводзіць свой паэтычны храм пераважна з грамадска-сацыяльнай прозы. Альбо скажам (у літаратурна-мастацкім сэнсе, вядома), што ён амаль арганічна пераўтварае прозу ў Паэзію...

Гэта зусім недалёка ад таго выпадку, калі *дзеля грама радыя пераводзіш тоны слоўнай руды*...

Аднак жа, не зважаючы на тое, яго імя не прыжылося ў таўталагічным літаратурным радзе, што выснаваўся ў адраджэнскім друку: *Барадулін, Гілевіч, Бураўкін*... Хоць, здавалася б, усе перадумовы для гэтага былі. Не буду іх тут пералічваць (гл. ч-с "Крыніца", № 2, 1994г.)

І дзякаваць Богу. Бо *"выйти из ряда вон"* не кожнаму дадзена. А, як для Паэта, то няма вышэй атэстацыі, чым выбівацца з ведамай кагорты сваёй адметнай самасцю. Найперш творчай, вядома, хоць прыдасць іміджу новыя адценні і неардынарная чалавечая біяграфія.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ. *"Жанчына. Мужчына. Каханне..."* (Мінск, выд-ва "Чатыры чвэрці", рэдактар Л.Дранько-Майсюк, 2003г., 500 асобнікаў, кошт 4930).**

І вось *"на старасці"* — зборнік Анатоля Вярцінскага пра каханне. Лепш сказаць, **выбранае**... Выбранае з *кахання* і каханне да *выбранае*...

Усім яго прыхільнікам вядома, што А.Вярцінскі заўжды быў закаханым і шматлюбным да жыцця. Яно ж (каханне), па вялікім рахунку, нязменнае, змяняемся толькі мы — закаханыя. Таму ні дзіўна, што Анатоль Вярцінскі новы ў кожным сваім прызнанні, у кожным вершы.

*Я так не магу, каб стрэцца*
*і холадна абмінуць,*
*каб сэрцам другое сэрца*
*горача не крануць.*

Шмат якія вершы з гэтага зборніка добра вядомыя сталым прыхільнікам яго творчасці. А такія, як "Эдзіт Піяф хоча любві", "Дзве паралельныя прамыя" (на жаль, па недаглядзе разбіты на два вершы), "ххх Я фільм глядзеў. Там — Спартака распялі", "Мора, сонца, я і наша каханая...", "ххх Сёння было мне горка...", "Слова на развітанне. Пярэдадзень міленіума" ўжо сталіся класічна-хрэстаматыйнымі.

Шкада толькі, што Анатоль Ільіч не ўключыў у зборнік сваю невялікую паэму "Кэты-мэнэй" (1971), што была выдрукавана ў 67 нумары часопіса "Крыніца" за 2001 год. Гэты твор непадробнай Паэзіі, у маім вычуванні, — своеасаблівы моўны, экзістэнцыяльны, у пэўнай меры, шэдэўр сучаснай беларускай лірыкі.

*Шапчу я і ўсміхаюся сабе,*
*сваім напаўзабытым успамінам...*
*"Кэты-мэнэй"... Якія гэта словы?*
*З якой яны узяты мовы?*
*Ці існавалі ўвогуле раней?*
*"Кэты-мэнэй... Кэты-мэнэй..."*

"Кэты-мэнэй" — гэта своеасаблівы *пароль кахання.* Любоў, калі хочаце.

Пэўны шарм набыла кніжка і дзякуючы прадмове Л.Дранько-Майсюка, паэта якраз гэтай самай тэмы, хоць Л.Дранько-Майсюк і А.Вярцінскі належаць да абсалютна розных эстэтычных школ. У Вярцінскага ж увогуле — яна свая, скажам так, *пазашкольная*. Гэта адчуваецца па стылі і тоне самой прадмовы маладзейшага калегі. Для паэтыкі Л.Дранько-Майсюка як найлепш падыходзіць эпіграф з італьянца Джавані, узяты Максімам Багдановічам да "Веранікі" ("Яна — выдумка маёй галавы"), чаго ні пры якім раскладзе не скажаш адносна творчасці А.Вярцінскага, якая тоіцца ў *перадвочча*, а творыцца ў *перадсэрддзі*...

Каханне для А.Вярцінскага ёсць квінтэсэнцыяй самой Паэзіі.

*Пра месца ў жыцці, як дзеці,*
*гадаем, думаем, снім.*
*Месца маё ў свеце —*
*месца ў сэрцы тваім.*

Тыя, хто ведаюць цану самога кахання, зразумеюць і **дарагі** кошт яго *квінтэсэнцыі.*




**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ. *"Мы з братам"* (Мінск, "Мастацкая літаратура", рэдактар У.Мазго, 2003г., 2000 экз., кошт 3810).**

**Ірына БАГДАНОВІЧ. *"Альбом першакласніцы"* (Мінск, "Мастацкая літаратура", рэдактар Н.Філіповіч, 2003г., 2000 экз., кошт 1900).**

Паступова ад кахання Анатоля Вярцінскага пяройдзем да дзяцей Алеся Пісьмянкова і Ірыны Багдановіч. Маю на ўвазе, вядома, іх дзіцячыя кніжкі, што амаль адначасна пабачылі свет...

Абедзве яны гожа аформленыя і цудоўна выдадзеныя (асабліва А.Пісьмянкова). Самі ж аўтары даўно і добра вядомыя як, не зусім дакладна скажам, паэты для дарослых. Абое — эстэты, прыхільнікі паэзіі "чыстай красы". А.Пісьмянкоў, можа, залішне халаднаваты і дакладны (*цвярозы*) у змесце, але тонкі і дасціпны ў метафарычным і музычным выяўленні, і ці не занадта строгі ў паэтычных канонах і выбары класічнай формы. І.Багдановіч — больш закрытая і псіхалагічная, напоўненая, нібы тая амфара на марскім дне, сваёй першабытнай гісторыяй і біяграфічнай таямнічасцю...

Не маглі яны, вядома, адысці ад гэтых сваіх творчых характарыстык і ў кніжках для дзяцей. Вершы іх дабрадушныя, дасціпныя, іранічныя, падчас роздумныя і не без выхавальнага "маралітэ". Уласна я прачытаў іх не набіўшы аскоміны і асабліва не прытаміўшыся. Можа таму, што пачаў з кніжкі І.Багдановіч (залішне "правільнай" і аднатоннай), бо А.Пісьмянкоў яшчэ, дзякаваць Богу, сам *не выжыў з дзяцінства* і да апошняй старонкі намагаецца трымаць свайго чытача ў адпаведным, аптымістычна-бадзёрым, тонусе...

Каб не ўпадабляцца цыгану, і задарма не хваліць тое, што нейкім чынам *намажацца* і на мой кавалак хлеба (маю на ўвазе якраз гэтае небезганарарнае рэцэнзаванне), працытую найбольш цікавае з гэтых кніжак. Вось — "Зіма" ў І.Багдановіч:

*Белы кроіла сняжок,*
*Шыла зайцу кажушок*
*З чорным лапікам на лапе,*
*Як туды той лапік трапіў?*
*Растлумачу: на лужку*
*Не хапіла ёй сняжку!*

У А.Пісьмянкова, шчыра кажучы, выбітных вершаў больш (ды і кніжка ж таўсцейшая). Працытую яго верш "Дружок":

*Весяліцца не магу,*
*Калі ты на ланцугу,*
*Бо ніколі друга друг*
*Не навяжа на ланцуг.*

Класны верш! Праўда, не ведаю, ці трэба нашым дзецям *навязваць* магілёўскае слова "друг" у беларускамоўным сэнсе "сябра"? Агулам жа, абедзве кніжкі вартыя дзіцячай і найперш (як падказкі ці прачытання) бацькоўскай увагі.

І ўсё ж адна акалічнасць збянтэжыла мяне: ці не пісалі іх нашы шаноўныя аўтары як бы для саміх сябе, віртуальна вяртаючыся ў сваё ўласнае дзяцінства? Надта ж *антураж* і тэматыка іх вершаў нагадалі мне савецкае дзіцячае баўленне часу: снежкі, санкі, лес, грыбы, рака, рыбалка, лялькі, мядзведзі, марозіва, каты, мышы, сабакі, пеўні, дранікі, цымбалы...

Апроч як з *тэлепраграмай на тыдзень* у адным з вершаў А.Пісьмянкова, я не сустрэўся ў кніжках нашых аўтараў з сучаснымі "тэхналогіямі": камп'ютэрамі, аўтамашынамі, тэлевізійнымі прыстаўкамі, музычнымі дыскамі, мабільнымі тэлефонамі, касмічнымі караблямі і адпаведным нашаму часу мысленнем ды вычуваннем. (Ці не тут палягае і пэўная частка праблематыкі ўжывання і далейшага развіцця беларускай мовы? Яе здаўненая статычнасць, тэлерадыё-фальклорнасць, у нейкім сэнсе амаль музейная муміяльнасць, можа, і ёсць асноўнаю прычынай негатыўных заяў асобных грамадзян, маўляў, *на гэтай мове немагчыма выразіць нічога новага, значнаразумовага і высокатэхналагічнага?* ) У А.Пісьмянкова, да прыкладу, з сучаснай тэхнікі, *пардон,* фігуруе толькі **веласіпед**, а ў І.Багдановіч — **компас**... Але ці *выедзе* такім "рухам" наша дзіцячая літаратура з сярэдзіны XX-га ў XXI-е стагоддзе? Пытанне застаецца адкрытым. Хоць адказваць на яго ёсць каму. Ды тым жа Алесю Пісьмянкову і Ірыне Багдановіч. Талент жа не марожанае: не з'ясі й не растане. А так хочацца, каб нарэшце і беларускіх дзяцей перасадзілі з веласіпедаў на "Вольва"... І не толькі мне.

*Шаноўныя чытачы, усе гэтыя кніжкі вы можаце набыць у "КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА", (Мінск, вул.Казлова, 2.)*





Выходзіць з 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Анатоль КАЗЛОЎ

Рэдакцыйная рада:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Віктар КАВАЛЁЎ,
Вольга КУРТАНІЧ,
Віктар ПАТАПЕНКА — намеснік галоўнага рэдактара,
Віктар ШНІП — адказны сакратар.



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8153
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-84-61

*Электоронны адрас:*
e-mail: minsk @ lim. by

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1429
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.12.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4293

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12